
„У Ірэны”→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714


Смакі ў скансэне→5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 39 (2995) Год LVIII | Беласток, 29 верасня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Пад патранажам прэзідэнта РП Браніслава Камароўскага ў Беластоку 19-20 верасня адбыўся I Самаўрадавы форум Усходняга партнёрства. Не выпрацавалі на ім ніякай прынцыповай пазіцыі ці рэкамендацыі, якія маглі б стаць асновай для працы наступнага саміта Усходняга партнёрства (УП) — у лістападзе ў Вільні. Установа галоўнага арганізатара, то-бок, прэзідэнта горада Беластока, запрасіла на гэтае мерапрыемства прадстаўнікоў брацкіх гарадоў з шасці краін-удзельніц Усходняга партнёрства (Арменія, Азербайджан, Беларусь, Грузія, Малдова, Украіна).**



# Партнёрства самакіравання

Хто з намі ў Еўрапейскі цягнік, купэ чакаюць. Злева: Гжэгаж Схетына, Паўль Бэван — генеральны сакратар сеткі Еўрасіты, Тадэвуш Трускаляскі

На Форум, аднак, не прыехалі запрошаныя прадстаўнікі беларускага самакіравання, гэта значыць, ад Гродна. Беларусь прадстаўлялі генеральны консул РБ у Беластоку Аляксандр Берабеня і часовы паверани ў справах Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча Андрэй Лазавік. Таксама не было запрошаных самаўрадаўцаў з Азербайджана і Арменіі.

Якраз перад форумам мы спрабавалі высветліць, чаму не прыбыў ніхто з Гродна. Генконсул Аляксандр Берабеня загадкава адказаў „Ніве”:

— Я не ведаю, мабыць, яны не атрымалі запрашэння. Гэта можа быць нейкая памылка. Я таксама не ведаў, што запрошаны хтосьці з Гродна.

Прэзідэнту горада Беластока Тадэвушу Трускаляскаму падвярнулася думка, што мэр і іншыя запрошаныя гродзенскія самаўрадаўцы (у Беларусі канцэпцыя самаўрада не супадае з канцэпцыяй вядомай у Польшчы і на захадзе Еўропы) не атрымалі дазволу на прыезд ад вышэйпастаўленых прадстаўнікоў рэжыму Аляксандра Лукашэнкі:

— Я не нясу адказнасці за пошту. Запрашэнні былі адпраўлены каля шасці тыдняў да форуму. У мяне няма ніякай інфармацыі аб прычынах адсутнасці. Мне прасцей паехаць у замежную дэлегацыю, бо для гэтага проста патрэбны толькі подпіс сакратара горада. А там, відаць, больш складана. Наколькі я ведаю, азербайджанская дэлегацыя не прыехала, таму што яны адзначаюць у гэты час дні свайго горада.

Генконсул Берабеня, спасылаючыся на ўдзел Беларусі ва Усходнім партнёрстве, сказаў у гутарцы з намі:

— Мы чакаем, што ў рамках УП будзе весціся раўнапраўны дыялог, але пакуль яго няма. Нельга, каб было гэта толькі аднабаковае ўяўленне пра сітуацыю ў Беларусі (гэта спасылка на незахоўванне дэмакратычных стандартаў у Беларусі — М. Х.). Гродна можа атрымаць карысць ад вопыту Беластока, але і Беласток ад вопыту Гродна.

## Ключавая роля мясцовага самакіравання

Адкрываючы Форум, прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі падкрэсліў:

— Мы хочам, каб нашы намаганні на мясцовым узроўні, якія з'яўляюцца часткай перадумоў ЕС, набылі новую якасць. Менавіта на мясцовым узроўні гэтыя перадумовы могуць быць найбольш рэалізаванымі. Самаўрад у супрацоўніцтве з усходнімі цэнтрамі гэта лепшы пасол дэмакратыі і добрых практык так у бізнесе, як і ў палітыцы.

Яцэк Міхалоўскі — кіраўнік Канцылярыі прэзідэнта РП пераконваў:

— Пабудова добрых адносін, адносін паміж людзьмі з краін ЕС і Усходняга партнёрства з'яўляецца найважнейшай мэтай нашай канферэнцыі. Без самаўрадаў УП не мела б ніякага сэнсу. Органы мясцовага самакіравання адыгрываюць тут ключавую ролю. Прыклад Польшчы 25 гадоў таму вельмі добра паказвае, што без рэформы самакіравання наша краіна не змянілася б. Гэта адзін з нашых ключавых досведаў, які можам падзяліцца ў рамках Усходняга партнёрства. Дзякуючы самаўрадавым адносінам ствараем добрыя ўмовы для пабудовы дзелавых і палітычных адносін.

На яго думку, у рамках самаўрадавага супрацоўніцтва УП яшчэ шмат трэба зрабіць на гмінным узроўні.

Гжэгаж Схетына, былы маршалак Сейма, старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах:

— Толькі самаўрад, людзі здольныя вырашаць праблемы мясцовых супольнасцей, адкрытыя, у якіх агульная мова, сапраўды могуць змяніць рэальнасць.

Кацярына Пэлчынска-Налэнч, віцэ-міністр замежных спраў:

— Самаўрадавае вымярэнне УП на самым пачатку гэтага праекта не было такім прыкметным, але з кожным годам свайго існавання становіцца ўсё больш важным. Самаўрадавая палітыка ўплывае на рэальных людзей, вырашаючы іх праблемы, іх добрае жыццё тут, на месцы. Гэта стварае магчымасць таго, што ўсходнія межы ЕС ужо не бар'ер, яны становяцца шанцам. Стварае гэта магчымасці развіцця для абодвух бакоў.

Як адзначала, для плённага самаўрадавага супрацоўніцтва ў рамках УП патрэбны грошы („ёсць яны для выкарыстання не толькі ў Бруселі, але і непасрэдна ў Польшчы, у рамках развіццёвай дапамогі”), партнёры („няма там развінутых самаўрадаў, а ўлада ў некаторых з шасці краін Усходняга партнёрства строга цэнтралізавана, як у Беларусі”), і падтрымка для гэтага супрацоўніцтва з боку паасобных дзяржаў.

Дарыюш Богдан, віцэ-міністр гаспадаркі:

— Не толькі Польшча, але і ЕС у цэлым чакае, што пагадненне аб свабодным гандлі з краінамі УП будзе спрыяць значнаму павелічэнню ўзаемнага гандлю. На сённяшні дзень удзел партнёрскіх краін у польскім гандлёвым абароце быў адносна нізкім. У 2012 годзе прыпадала толькі тры адсоткі ўсяго нашага гандлёвага абмену, то-бок, каля 10 мільярдаў долараў. Найбольшыя абароты ў гэтай групе краін Польшча традыцыйна мае з Украінай і Беларуссю. Тым не менш, гэта не адлюстроўвае нашых эканамічных магчымасцей.

Падчас панельнай дыскусіі, прысвечанай перспектыве развіцця краін УП, Олаф Осіца, дырэктар Цэнтра ўсходніх даследаванняў у Варшаве, адзначыў:

— Руская нядаўна сказалі „не” краінам УП. Яны сказалі, што тыя павінны вырашыць, ці ўступаюць з ЕС у нейкі працэс інтэграцыі, не такі палітычны, а перш за ўсё гандлёвы, эканамічнага развіцця, гэта гаспадарка з'яўляецца тым, што вызначае зрушэнне межаў (...). Нельга дзейнічаць у сістэме расійскіх уплываў, ведучы ўнутраную палітыку, а вонкавую з ЕС.

Дадаў:

— Мытны саюз краін Усходняга партнёрства з Расіяй не ўяўляе сабой злучэння свабодных краін, а спробу аднавіць Савецкі Саюз.

Намеснік старшыні парламенцкай камісіі па замежных справах і старшыня парламенцкай групы па Беларусі Роберт Тышкевіч:

— Беларусь ва Усходнім партнёрстве — самы складаны партнёр і найбольшы выклік. Нельга апускаць рук. Гэты партнёр не страчаны. Там, дзе міждзяржаўныя адносіны не даюць вынікаў, варта прыняць да ўдзелу самаўрадавыя і эканамічныя супольнасці. У той жа час мы па-ранейшаму павінны паўтараць, што ў Беларусі ёсць праблемы з дэмакратыяй.

## Тры ўмовы для будучыні УП

Вельмі канкрэтна прагучала заява вялікапольскага маршалка Марка Вознякa:

— На ўзроўні органаў мясцовага самакіравання не мусім баяцца Расіі. Краінам УП трэба ясна сказаць, што рабіць далей. Каб мы маглі эфектыўна працаваць, неабходнае будаўніцтва аснаванай на адкрытае грамадства мясцовай супольнасці, фіскальнай дэцэнтралізацыі (самаўрады павінны быць у стане падняць свае даходы; не маюць дастатковага ўласнага ўкладу для рэалізацыі праектаў ЕС — М. Х.), тэрытарыяльнага супрацоўніцтва праз межы. Гэтыя тры элементы будуць будаваць будучыню УП.

працяг ☞10





# Цягнік у мінулае

Перакананым антысаветчыкам я стаў яшчэ ў савецкім войску. Уласна не двухгадовая служба ў гэтым войску стала таму галоўнай прычынай. Проста якраз у тыя гады надышла перабудова і выплыла надзвычай многа праўды пра сапраўдную гісторыю Савецкага Саюза. Пра тую праўдзівую гісторыю, пра якую нам яшчэ не казалі на першым курсе гістарычнага факультэта ў 1984 годзе, мы чыталі ў розных друкаваных выданнях 1986 года, прыкладам такіх як папулярнейшы часопіс „Огонёк". Праўду пра „вялікую кастрычніцкую рэвалюцыю", пра сапраўднае маральнае і палітычнае аблічча самага „чалавечнага чалавека" Уладзіміра Леніна, пра сталінскія рэпрэсіі і загубленых таленавітых літаратараў, і шмат яшчэ пра што. Папраўдзе само савецкае войска таксама не ўмацоўвала веры ў справядлівасць і непахіснасць сацыялістычнага лагера. У вучэбнай часці цяжка было зразумець, чаму ў мірны час салдаты павінны быць цэлы час галоднымі. І гэта не ў якой глухой глыбінцы, на краі шостай часткі планеты (маладыя напэўна і не ведаюць, што такую тэрыторыю займаў СССР), куды можа і цяжка давезці харчаванне, а ў слаўным горадзе-„герої" Мінску. А потым ужо ў „баявой" часці мне таксама было незразумела, што мы — такія розныя дзеці розных народаў робім у адной арміі. Мне таксама было незразумела, чаму за два гады войска мы толькі два разы стралялі з аўтаматаў і то давалі па некалькі патронаў. Затое ў вучэбцы перад прыездам нейкага генерала мы ноччу цягалі за кіламетр дзёран на насілках для ўкладання яго перад цэнтральнай брамай часткі. Затое былі бясконцыя падмятанні асеннага лісця (гэта ўвогуле класіка савецкага войска), „нечаканыя" баявыя трывогі а 6-й раніцы, якія абвяшчаліся напярэдадні а дзевятай вечара. А аднойчы мне давялося кіраваць нават узводам нававбранцаў у аперацыі па знішчэнні жоўтых дзьмухаўцоў вакол нашага засакрэчанага штаба. Такія, часам гратэскавыя сітуацыі, добра адлюстраваныя ў найноўшых тэлесерыялах.

У войску ў час маёй службы было і шмат пазітыўнага — сапраўднае сяброўства, цікавая вайсковая спецыяльнасць, знаёмства з прадстаўнікамі рэдкіх нацыянальнасцей і іх мовамі, побач з прымітыўнымі людзьмі ў пагонах сапраўдныя афіцэры-інтэлектуалы, адмыслоўцы сваёй справы. Маё глыбокае перакананне — кожны здаровы малады чалавек мусіць прайсці вайсковую рыхтоўлю і загартаванне характару. Але не менш відавочнае і тое, што сапраўды баяздольнае войска мусіць быць прафесійным. Што мусіць быць і альтэрнатыўная служба для тых, хто паводле сваіх рэлігійных ці пацыфісцкіх перакананняў катэгарычна не хоча браць у рукі аўтамат.

Пытанне — якім ёсць і якім будзе ў бліжэйшы час цяперашняе беларускае войска — надзвычай важнае. Па тым, што ўдаецца пачуць і прачытаць пра яго сутнасць і змест зараз — карціна несуцяшальная. Сучаснае беларускае войска пераняло ўсё заганнае, што было ў савецкім. А савецкае войска было збудавана паводле зэкаўскай сістэмы, калі маладыя салдаты цярпелі ўсялякія прыніжэнні і здзекі з боку старэйшых. Некаторыя не вытрымлівалі гэтых здзекаў і збівання, сканчалі самагубствам альбо расстрэльвалі саслужыўцаў. Таму так часта і гінулі салдаты ў гэтым войску нават у мірны час. Мяркуючы па расійскіх медыях, нічога не змянілася з таго часу і ў расійскім войску. А з гэтым войскам у нас зараз супольныя вучэнні. Зноў нейкая празмерная мілітарызацыя, агрэсія да Захаду, зноў абмежаваны кантынгент чужой арміі на беларускай зямлі. Лішне казаць, што ўдзел беларускіх салдат у расійскім войску яшчэ ніколі нічога добрага ў гісторыі для Беларусі не прынёс.

Беларускае войска мусіць быць менавіта беларускім, а не нейкім саюзным ці аб'яднаным — прасцейшая ісціна. Каб не было, як у тым класічным анекдоце. На пероне чыгуначнага вакзала стаіць важны палкоўнік, у гэты момант з месца кранаецца цягнік. Людзі, якія спазняюцца, крычаць афіцэру: „Таварыш палкоўнік, спыніце цягнік". Палкоўнік паварочваецца да цягніка і загадвае: „Поезд, стой! Раз-два!". Ураджанне такое, што цягнік гісторыі зараз хочуць спыніць менавіта так. Не хацелася б, каб эшалон нашага беларускага войска быў адпраўлены ў мінулае.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Бязгрэшныя п'яніцы

Схільнасць да п'янства не з'яўляецца рысай, якая абвздольвае выключна беларусаў. Палякі не лепшыя па гэтай прыкмеце. Сапраўды гэтак жа і рускія. Статыстыкі, якія паказваюць на рост спажывання алкаголю ў гэтых трох краінах, аднолькава трывожныя. Але алкагалізм у Беларусі не з'яўляецца праблемай асобных людзей, а з'яўляецца станам нацыянальнага бедства. За апошнія пяць гадоў продаж алкаголю павялічылася там на 40 адсоткаў. У сусветным рэйтынгу самых п'яных грамадстваў беларусы ўжо займаюць 10-е месца. Гэта перакладваецца на страшны лік няшчасных людзей, залежных ад алкаголю. Па дадзеных Міністэрства аховы здароўя Беларусі ёсць іх аж 187 тысяч. Па крайняй меры, яшчэ стольк ж змагаецца з алкагалізмам за межамі афіцыйнай статыстыкі. Як на дзесяцімільённае насельніцтва такі лік галавакружны. Хоць улады бяруцца за розныя спосабы, каб прадухіліць алкагольнае бедства, але наступствы гэтага сумныя. Так званыя табліцы ганьбы ў грамадскіх месцах, на якіх змяшчаюць партрэты злоўжываючых алкаголем, прыносяць прамое разбуральнае ўздзеянне. Прыніжаныя п'яніцы п'юць яшчэ больш, каб забыцца пра свой сорам. Расце незадаволенасць больш умераных грамадзян, занепакоеных празмерным умяшаннем улады ў інтымную сферу чалавечай слабасці. А гэта, вядома, кранае ўсіх людзей. Тое ж і ў выпадку аб'яўленых прэзідэнтам Лукашэнкам дзён цвярозасці, калі абавязвае поўная забарона продажу алкаголю. Якраз недарэчна павялічваецца тады спажыванне алкагольных напояў, нават утрая. І гэта неабавязкова тых памечаных акцызнай маркай.

Прымусовая ўстрыманасць, вымушаная ўладай на ўсім грамадстве, не апраўдвае нястрымнага п'янства яго меншай часткі. Ані не апраўдвае, ані не прыносіць жаданых мэт. Шматлікія прыклады гэтаму можна знайсці ў падручніках гісторыі. У сувязі з алкагалізмам духавенства, дваранства, шляхты і простанароддзя ўжо ў 1254 годзе князі-электары Трыру і Рэйнланд-Пфальца заснавалі Таварыства цвярозасці. Паўсюдна напіваліся тады півам і віном. Аднак, скарачэнне паставак гэтых напояў вымушанае князямі паспрыяла распаўсюджанню моцных спіртных напояў. На каля тры стагоддзі пазнейшы ўказ Францыска І ад 1536 года, у якім ён рашыў, што калі хто ў Францыі з'явіцца п'яны ў грамадскім месцы, будзе падвяргацца значным рэпрэсіям — ад пазбаўлення волі, праз лупцоўку і да выгнання, прынёс папросту адваротны вынік. Каралеўскія падданыя пілі які і пілі, толькі не выходзілі на працягу ўсяго дня з корчмаў, каб не прыцягваць увагі каралеўскіх галаварэзаў па дарозе дадому.

Згодна з Каранам, святым пісаннем у свеце ісламу, кожны мусіць жыць са сваімі дэманамі, нават пры рызыцы таго, што можа дадаць ім сіл. Адным з іх з'яўляецца алкаголь, або больш строга: дэманічная цяга да яго. Дэман пасяляецца ж у чалавеку, а не ў кілішку. І часцяком гэта ў чалавеку прымае каварную постаць — перашчыраванай абстыненцыі. Ужо вялікі арабскі філосаф і багаслоў Абу Хамід аль-Газалі, які дзейнічаў у адзінаццатым стагоддзі, заклікаў да асуджэння не тых, хто змагаецца з алкагольным дэманам, але тых, хто не задавальняецца сваім устрыманнем і з нецярпеннем паліць вінаграднікі ў апасцы, што сабраны плён будзе выкарыстаны, каб зрабіць віно. „Гэта так, як самому адрэзаць язык, каб ніколі не лгаць", — распавядаў аль-Газалі. Цнота гэта ўстрыманне, грэх — перабольшанне. Па гэтай прычыне ісламскі прагібіцыянізм мае не аж такі абмежавальны характар. У выключных выпадках, ужываючы алкаголь, мусульманін можа разлічваць на адпушчэнне грахоў у трох выпадках: няведання, для здароўя і... ад страху перад уладай. Абмінаючы першыя два выпадкі, якія могуць прывесці да алкагалізму, трэці ўяўляе асаблівую цікавасць. Наколькі ўлада надзейная для сваіх грамадзян, іх празмернае п'янства можа быць для яе прыкметай таго, што нешта ў тым, як у цяперашні час валодае краінай, няўдалае. Тут не дапаможа прабстыненцкае ўзмацненне рэпрэсій. Спосаб упраўлення ўлады не правальваецца таму, што яна мае дачыненне з п'янымі грамадзянамі, але таму грамадзяне п'яныя, што баяцца ўлады. Дакладней: баяцца за будучыню сваёй і сваіх дзяцей пад кіраваннем такой улады. Дык хто ж тады грэшыць?

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Усход культуры — Іншае вымярэнне

Рэдка здараецца ўва мне такая ўпэўненасць, але на бягучым фестывалі «Усход культуры — Іншае вымярэнне» трэба быць. У яго рамках сорак пяць падзей з удзелам каля трохсот мастакоў да нядзелі будзе прэзентавацца ў Беластоку. Мэта мерапрыемства — аб'яднанне ў культурным вымярэнні краін-удзельніц праекта ЕС «Усходняе партнёрства» (Азербайджан, Арменія, Беларусь, Грузія, Малдова, Украіна) з гарадамі ўсходняй Польшчы: Жэшавам, Люблінам і якраз з Беластокам. Першым мерапрыемствам «Усходу культуры» — па ініцыятыве міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Богдана Здраеўскага — быў у канцы чэрвеня Еўрапейскі стадыён культуры ў Жэшаве. Кончыць яго ў пачатку кастрычніка фестываль «Інтэграцыі — Міграцыі» ў Любліне. Падчас перадфестывальнай прэс-канферэнцыі ў Беластоку намеснік дырэктара Нацыянальнага цэнтра культуры Казімеж Манкевіч (НЦК фінансуе і курыруе мерапрыемства) прыгадаў:

— У 2011 годзе ў рамках падрыхтоўкі да чэмпіянату свету ў горадзе Жэшаве нарадзілася ідэя пашырыць спартыўныя падзеі на культурную дзейнасць. Так узнік Еўрапейскі стадыён культуры. Гэтая ідэя, дзякуючы міністру культуры, не ўпала і была ператворана ва «Усход культуры».

Намесніца прэзідэнта Беластока Рэната Пшыгодзка падкрэсліла:

— Гэты праект мае для нас неверагоднае вымярэнне. Прыносіць з сабою дабаўленую вартасць. Праект «Усходняе партнёрства» можа ажыццяўляцца ў самых нізах. Культура дае магчымасці для рэалізацыі партнёрскіх адносін. «Усход культуры» — выдатная магчымасць пабудаваць прастору для абмеркавання і дасягнення паразумення ў рамках «Усходняга партнёрства».

Дырэктар Упраўлення культуры Гарадской управы Беластока Анна Пецюль:

— Мы вырашылі да шматгадовага мультыкультурнага фестывалю «Іншае вымярэнне» (імпрэза Беластоцкага культурнага цэнтра — М. Х.) запрасіць іншыя ўстановы, няўрадавыя арганізацыі і асобных мастакоў. «Усход культуры» ў Беластоку гэта шэсць вымярэнняў культуры, галоўным чынам на аснове тэатральнай дзейнасці.

Гражына Дваракоўская, дырэктарка Беластоцкага цэнтра культуры (які разам з Гарадской управай з'яўляюцца асноўнымі арганізатарамі фестывалю):

— Уключылася дваццаць суб'ектаў з аўтарскімі праектамі.

У дадатак да тэатральных дзеянняў можна прыняць удзел у мерапрыемствах са сферы танца, кіно, моды, мастацтва і музыкі. Без сумневу, галоўнай падзеяй фестывалю стане на яго завяршэнне (у нядзелю 29 верасня) прэм'ера „Антыгоны" Беластоцкага драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў рэжысуры Агнешкі Карыткоўскай-Мазур з удзелам Алеся Малчанава з мінскага тэатра імя Янкі Купалы, да якой сцэнаграфію падрыхтаваў і заняўся рэжысурай святла сам Лявон Тарасэвіч. Беларускія акцэнты паяўляюцца ў большасці мерапрыемстваў фестывалю. Між іншым, гродзенскі рэжысёр Алег Жугжда прадставіць падрыхтаваны ў Беластоцкім лялечным тэатры спектакль «**Jaśniepanienka**», харэографка і танцорка з Мінска Вольга Скварцова ўдзельнічае ў танцавальным праекце „**Uroda życia**", пакажацца прэзентацыя мінскага мастака Сяргея Шабохіна (ён таксама прыме ўдзел у спецыяльнай дыскусіі), свой мастацкі сюрпрыз з нагоды паказу оперы „**Pimpinone**" прадставіць мастак, перформер, актывіст апазіцыі Алесь Пушкін, у тэатры «**Trzyrzecze**» адбудзецца прэм'ера «Трусоў» спрэчнага беларускага драматурга Паўла Пражко, сваю калекцыю прадставіць мінская мадэльерка Анастасія Міpановіч, нарэшце, у рамках фестывалю паказаны будзе спектакль «Ой, даўно, даўно. Беларускія гісторыі з Падляшша» Згуртавання АБ-БА, зрэалізаваны пад кіраўніцтвам Аліны Ваўранюк.

Падрабязная інфармацыя на сайце: **www.wschodkultury.eu.** На ўсе мерапрыемствы ўваход вольны. У некаторых — лік месц абмежаваны.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Ткацтва і агратурызм «У Ірэны»

Агратурыстычная кватэра «У Ірэны» ў Старым Ляўкове розніцца ад іншых агракватэр перадусім вялікай колькасцю ткацкіх вырабаў, якія ляжаць там на сталах, тапчанах і ложках. У гэтай кватэры арганізаваліся ткацкія майстар-класы. Яе ўласніца Ірэна Ігнацюк тчэ палавікі, пакрывалы і палотны з цікавымі ўзорамі. Свае вырабы прадае турыстам і выкарыстоўвае іх у сваім доме.



Ірэна і Вячаслаў Ігнацюкі побач кроснаў



— Муж выканаў тут прыстань, якой карыстаюцца байдарачнікі, — сказала Ірэна Ігнацюк

Ля панадворка плыве рэчка Нараўка, а збоку расце малады лес. Вячаслаў Ігнацюк, муж спадарыні Ірэны, вядомы ў наваколлі як спецыяліст па выконванні традыцыйных кафлевых печак і забудоўванні камінкаў кафлямі. Зрабіў ён на беразе рэчкі прыстань для турыстаў, якія на байдарках любуюцца навакольнай прыродай. Недалёка з Ляўкова ў Белавежскую пушчу і на Семяноўскае вадасховішча, якое прыцягвае на адпачынак аматараў прыгожай прыроды, плавання і рыбалкі. Агракватэру спадарства Ігнацюкоў наведваюць таксама прыхільнікі народнай творчасці, якую можна тут убачыць у практычным выкарыстанні. Асобы, зацікаўленыя ткацтвам, могуць павучыцца гэтаму занятку на кроснах пад наглядам майстрыхі Ірэны Ігнацюк. Разам з мужам займалася яна таксама вырошчваннем зёлак і надалей скупляе іх ад мясцовых жыхароў. Турысты ў агракватэры «У Ірэны» адпачываюць таксама пры вогнішчы, гуляюць на валейбольнай пляцоўцы на панадворку.

У доме спадарства Ігнацюкоў падышла да мяне бабуля Яўгенія Аліфер, маці Ірэны Ігнацюк, і з гордасцю заявіла, што «Ніва» ў іх хаце пастаянны госць ад пачатку яе выдавання. Паведаміла, што яе бацька Канстанцін Галубоўскі быў прыхільнікам беларускага слова і беларускай культуры і ад 1956 года пастаянна чытаў наш тыднёвік.

— Праўда, быў некалькігадовы перапынак у чытанні «Нівы» ў нашым доме, калі памёр бацька. Пасля вярнулася я да «Нівы» і пастаянна яе куплю і чытаю, — заявіла Яўгенія Аліфер і пачала дэкламаваць верш, які быў надрукаваны ў нашым тыднёвіку.

Прэзентацыю агракватэры спадарыня Ірэна пачала ад рэчкі Нараўкі, якая мяжуе з панадворкам спадарства Ігнацюкоў.

— Муж выканаў тут прыстань (вялікую, як на вясковыя ўмовы — А. М.), якой карыстаюцца перадусім байдарачнікі. Могуць яны выйсці на бераг і пад паветкай адпачыць, распрастаць ногі, нешта з'есці або нават напіцца вады з водаправода, які мы праклалі сюды, на прыстань. Асобы, якія карыстаюцца прыстанню, пакідаюць часам нейкія грошы, у знак удзячнасці за ўмовы, якія мы ім стварылі, — сказала Ірэна Ігнацюк. — Муж робіць лаўку, каб можна было адпачываць над вадой, але яшчэ не паспеў яе салідна прымацаваць. Рэчка вясной разліваецца на луг, распаложаны насупраць Ляўкова, якое раскінутае на ўзгорку. У нас вада падыходзіць да паловы высокага берага, але мы, на ўзгорку, адчуваем сябе бяспечна.

З прыстані мы перайшлі ў прыгожы домік для турыстаў. Да нас далучыўся Вячаслаў Ігнацюк, які зрабіў у доміку лесвіцу на паддашак і ўнутранае абсталяванне. Кафлямі забудаваў ён камінак, які абаграе першы і другі паверхі драўлянага доміка, абабітага звонку і ўнутры драўнінай. На тапчанах ляжаць прыгожыя, вытканыя спадарыняй Ірэнай, пакрывалы, а падлога на другім паверсе засланая цікавымі тканінамі.

— Тут госці жывуць выгадна. У кухні (распаложанай за камінкам — А. М.) рыхтуюць яны сабе харчаванне. Могуць таксама заказваць стравы ў нас. Нашае харчаванне смакуе турыстам. Расказваем ім пра наваколле і турыстычныя атракцыёны. Прыезджыя цікавяцца беларускай мовай і нашай нацыянальнай адметнасцю. Калі гаворым, што мы — беларусы, некаторыя турысты з больш аддаленых раёнаў Польшчы нават здзіўляюцца, што тут не жывуць палякі. Хочуць яны наведваць цэрквы, цікавяцца праваслаўным веравызнаннем. Мы заўважылі, што турысты прыязджаюць да нас хвалямі, бо адны другім рэкамендуюць прыезд у наваколле Белавежскай пушчы. Начуюць у нас таксама маладыя з бліжэйшых мясцовасцей, якія наймаюць наш домік на свае святкаванні, — расказала спадарыня Ірэна.

Спадарства Ігнацюкі прымаюць гасцей на начлегі таксама на другім паверсе дабудаванай часткі хаты, у якой жывуць. На першым паверсе стаяць кросны, на якіх спадарыня Ірэна з дапамогай мамы і мужа тчэ пераважна зімой. Вучыць яна ткаць турыстаў і гасцей у час майстар-класаў. Ірэна Ігнацюк вяла ткацкія майстар-класы ў Ляўкове, Чыжах і Нявіраве. У яе калекцыі ўжо дзесяткі ткацкіх прац, якія можна лічыць мастацкімі работамі. Летам гэтага года ў агракватэры «У Ірэны» былі наладжаны майстар-класы па тканню ў рамках праекта, рэалізаванага Ваяводскім асяродкам анімацыі культуры з Беластока.

— Майстар-класы доўжыліся тыдзень. Іх удзельнікі, між іншым жанчыны з Музея ў Бельску-Падляшскім, жылі ў нашай агракватэры і многа ткалі. У Музеі ў Бельску была наладжана выстаўка «Мастацтва з кроснаў. Народныя тканіны з калекцый Падляшскага музея ў Беластоку і Ірэны Ігнацюк», на якой паказваліся таксама мае ткацкія вырабы. Такія майстар-класы і выстаўкі дапамагаюць захаваць памяць аб ручным тканні, важным занятку нашых мам і бабуль, — гаварыла спадарыня Ірэна Ігнацюк.

Летам гэтага года бачыў я майстрыху, калі працавала на кроснах у час белфэсту «Культура на музейных сходах», наладжанага ля Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы. Паказвала тады як ткаць палавікі. Мне паказала ільняны настольнік з цікавымі старадаўнімі ўзорамі, які тчэ на заказ. Зараз ільняныя вырабы ў модзе і прадаюцца даражэй, чым іншыя тканіны.

— Вось тут ільняны настольнік (дома паказвае мне спадарыня Ірэна свой новы выраб з датай 2013 — А. М.), які тчэцца вельмі паволі. У час яго выконвання трэба быць вельмі асцярожным. Кросны — гэта простая драўляная машына, але нельга, працуючы на ёй, памыліцца, бо сапсуецца тканне. Трэба адпаведна перабіраць рукамі і нагамі, каб выткаць прыгожае палатно. Нашыя мамы і бабулі ткалі на кроснах даўжэзныя тканіны з ільну, канапель або палавікі са шмоцця, — пачала расказ Ірэна Ігнацюк. — Калі мая мама ткала ў пераборы, трэба было ёй дапамагаць. Я ахвотна гэта рабіла. Пасля навучылася ткаць і рабіла гэта самастойна. У замужжы прыбавілася многа сямейных абавязкаў і тканне сышло на другі план. Калі мы з мужам адкрылі агратурыстычную кватэру, прыпанавалі нам прыцягнуць турыстаў нечым незвычайным і я рашылася паставіць у хаце кросны і ткаць. Даўнія ўзоры, запісаныя ў сшытках, я адбіваю і пасля карыстаюся імі. Калі я была маладая, то гаварыла сабе, што напэўна ў мяне дома не будуць стаяць кросны, як было ў маіх бацькоў. Аднак так склалася, што кросны зараз — важная прапанова маёй агратурыстычнай кватэры і стаяць тут пастаянна.



— Я пастаянна куплю і чытаю «Ніву», — заявіла Яўгенія Аліфер

Побач кроснаў знаходзіцца камінак, забудаваны кафлямі.

— Муж ужо даўно пачаў ставіць кафлевыя печы, гадоў дваццаць пяць таму. Пасля я стала яму дапамагаць, бо гэта дае прыстойны заробак, намнога большы, чым агратурыстычная дзейнасць. Зараз нават сыны дапамагаюць нам ставіць кафлевыя печы і забудоўваць камінкі. Заказаў у нас многа і нават сёння мы ставілі печ. Сыны яе канчаюць. Іх любімы спорт — валейбол. У іх многа кубкаў, якія здабылі са сваімі камандамі. Але трэба ім зарабляць на жыццё і таму ахвотна нам дапамагаюць, — патлумачыла спадарыня Ірэна.

— У мяне многа беларускіх кніжак, якія прывозяць мне з Беларусі. Мы з жонкай таксама часта ездзім у Рэспубліку Беларусь, — уключыўся ў размову Вячаслаў Ігнацюк.

— У Мінску жыве мая сястра, якая здабыла там вышэйшую адукацыю, пазнаёмілася з хлопцам, выйшла за яго замуж і засталася на пастаяннае жыхарства. Мы раім ёй вучыць дзетак размаўляць папольску, каб, прыехаўшы ў Польшчу, умелі гаварыць на польскай мове. Аднак сястра дома вучыць дзетак размаўляць па-беларуску, бо па-за домам гавораць яны з сябрамі на рускай мове, — заявіла Ірэна Ігнацюк.

Запрэзентавала яна таксама тканне на кроснах, у якім дапамагаў ёй муж Вячаслаў.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Больш дошак аб'яў

Сёлета ў вёскі Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) прывезлі новыя прыгожыя дошкі аб'яў. Яны з маленькім дашком ад дажджу і пякучага сонца. Найбольш такіх дошак паставілі ў 2011 годзе.

Наведаў я дзве пушчанскія вёскі Бярнадскі Мост і Сушчы Барок. Мне адразу ў вочы кінуліся новыя дошкі аб'яў.

На вуліцы Бярнадскага Моста сустрэў маладых спадароў Савіцкіх. Яны расказалі мне, што новага ў іх вёсцы. Паказалі прыгожыя сядзібы новапасяленцаў, якімі можна ганарыцца, а таксама новую дошку аб'яў. Яны папрасілі мяне прыпомніць войту пра пасёлкавую дошку з назвай іх вёскі. Старую забралі, а новае так і не дачакаліся дагэтуль. Выязджаеш з лесу з боку ад Падляўкова і невядома, што гэта за сяло. Я паабяцаў, што скажу пра гэта падчас бліжэйшай сесіі Гміннай рады.

У вёсцы Сушчы Барок такой дошкі аб'яў раней увогуле не было. Аб'явы жыхары чыталі на дошках у Падляўкове, Плянце, Старым Ляўкове, Новым Ляўкове або ў Нараўцы.

Жыхары вышэйзгаданых вёсак хочуць, каб да іх солтысы прывозілі афішы, плакаты ды запрашэнні на ўсе культурна-забаўляльныя ды спартыўныя мерапрыемствы ў Нараўчанскай гміне, а таксама і ў суседніх гмінах: Міхалоўскай, Нарваўскай і Гайнаўскай. Яны дагэтуль былі недаінфармаваныя. Ім нічога не было вядома, калі адбываюцца сесіі Гміннай рады. Сюды не траплялі паведамленні мясцовых і павятовых устаноў.

## Менш дрэў

У Беластоку ўвесь час пашыраюць то адну, то другую вуліцу і прытым ссякаюць пры іх дрэвы. Зараз мала іх у цэнтры горада ды не толькі.

Апошнім часам найбольш дрэў ссеклі на алеі Пілсудскага ды на вуліцах Сянкевіча, Васількоўскай, 42 Пяхотнага палка і ген. Андэрса. На іх закопваюць новыя каналізацыйныя трубы ды будуюць новыя маставыя, тратуары і веласіпедныя дарожкі.

Ёсць вуліца кард. Вышынскага, якая выходзіць насупраць аўтавакзала і на якой расло многа перш-наперш арабін і іншых дрэў. Цяпер шмат з іх засохла. На некаторых месцах, дзе яны раслі — пуста або расце толькі трава. Чаму б тут не пасадзіць новыя дрэўцы?

Гэта адна з шырэйшых вуліц у Беластоку. У пачатку яе знаходзіцца Маршалкоўская ўправа. Служачыя гэтага не бачаць ці што? А гараджанам патрэбнае свежае паветра. Зараз сюдою ездзіць вельмі многа аўтамабіляў.

## Сквер пры царкве

Побач царквы св. Мікалая па вуліцы Ліпавай у Беластоку мадэрнізуюць сквер. Найпрыгажэй будзе выглядаць частка яго пры скрыжаванні вуліц Ліпавай, Лінярскага і Мальмеда.

Ужо ў кастрычніку гэтага года можна будзе тут пахадзіць па ясных гранітных плітках ды пасядзець на прыгожых лавачках (каменных, пакрытых дрэвам) ды да таго яшчэ над вадой малога вадаёма. У скверы з боку вуліцы св. Мікалая і з боку царквы будуць — так як і дагэтуль — красавацца прыгожыя каштаны і іншыя дрэвы. Будзе многа дэкаратыўных кустарнікаў і кветак.

Мадэрнізацыя сквера будзе каштаваць звыш 800 тысяч злотых.

**(яц)**

# Дажалі ў Залуках



«Падляшанкі» з Нарваўскай гміны



У Гарадоцкай гміне на Беласточчыне кончылі жніво. У Залуках, што над Супраслю, 8 верасня адбыўся ўжо традыцыйна ў гэтай вёсцы народны фэст, які сабраў гаспадароў, уладароў і гасцей не толькі з Беластоцкага павета. Месца, дзе праводзяцца гмінныя дажынкі на Гарадоччыне, выбрана невыпадкова. Гэтая моцная вёска з зухаватымі і таленавітымі гаспадарамі і гаспадынямі ўтрымала сваю школу, заснаваўшы сваё грамадска-культурнае таварыства «Залукі над Супраслю», якім кіруе Ірэна Каранкевіч, адна з сябровак «Каліны» — аднаго з трох музычных калектываў у вёсцы. На свята з'язджаюцца са сваёй мастацкай праграмай дзесяткі калектываў з навакольных гмін, якія з імі дружаць. Але асновай спеўнай праграмы з'яўляюцца, перш за ўсё «Каліна», «Калінка» і «Каліначка» ды іншыя гарадоцкія гурты, у якіх спяваюць усе пакаленні. Дажынкі арганізуе ўся гміна, пры значным удзеле Гарадоцкага цэнтра культуры. Дырэктар ГЦК Юры Хмялеўскі адзначыў:

— Дажынкі для нас — гэта не толькі свята ўраджаю, але таксама культурная падзея, каб успомніць даўнія звычаі. Тут, на сцэне, кожны год паказваем, як гэта калісьці было. Расказалі, як заканчвалі жніво, як дзякавалі і пану, і Богу за плён. Гэта вельмі багатая традыцыя, пра якую маладое пакаленне ўжо не ведае. Дзейнічаем і спяваем!

— Як трымаемся? — дзівіцца Ірэна Каранкевіч. — Пяцігоддзе адзначаць будзем. Галоўнае, што школу сваю захавалі. І што «Калінка» спявае, што выдала новы дыск. Арганізавалі мы таксама свята Купалы, атрымалі датацыю са староства.

Старостамі сёлетніх дажынак былі Пётр Сакалоўскі з Залук і Лілія Тамашэўская, солтыска з Каралёвага Стойла.

У час мерапрыемства прэзентаваліся дажынкавыя вянкі і праходзілі конкурсы. Вянкі ацэньвалі Барбара Пахольская з Саколя, Анна Грыцук — дырэктарка гміннай гімназіі і Марыя Мялешка з ГЦК. Перамог вянок з перапеліцай «Падляшанак» з Нарваўскай гміны. Свае вянкі сплялі ўсе калектывы. «Барвянкі» з Рафалоўкі ў Заблудаўскай гміне, «Арабіна» з Каракуль (Супрасльская гміна), «Асенні ліст» з Гарадка, «Жыравінкі»...

— Мы аб'язджаем усе дажынкавыя фэсты, — кажа Лідзія Матэйчук, удзельніца гурту «Жыравінкі» з Агароднічак Супрасльскай гміны. — Былі раней у Чорнай-Беластоцкай на дажынках. А з сямю беларускімі песнямі выступілі сёння ў Супраслі. А прывезлі мы новыя песні — дзве, напісаныя нашай сяброўкай Нінай Панкевіч, і беларускія народныя. Стараемся. Пятага кастрычніка будзем адзначаць сваё 35-годдзе. Я буду спяваць да канца, можа заўтра не падымуся, але спяваць не кіну!

— А мы яшчэ толькі трэці год спяваем, — папраўляюць свае самаробныя строі барвяначкі з Заблудаўшчыны і смяюцца: — Пакуль раскрунемся, дык і зусім... састарэем!

— Мусіце пазнаёміцца з калектывамі, якія не старэюць! — вяду іх у бок чакаючых выступленняў немаладых вясялух.

Частуе сваімі вырабамі «Лакальна група дзейнасці — Кнышынска пушча» на чале са Згуртаваннем «Барва» (Рафалоўка) з Данутай Багінскай, раздае інфармацыю пра самадзейнасць згуртаваных там асоб і турыстычныя цікавінкі. Наўкола стаяць ларкі са смакоццем — як на ўсіх народных фэстах. Можна пагушкацца на гумавых вышках, пастраляць у цiры... Малечы бегаюць усюды з надзьмутымі гумавымі звярамі — тутэйшымі і экзатычнымі. Ліецца песня са сцэны — ад маладзевых рытмаў «Вэны», праз паказы дасягненняў меншых і большых вучняў гарадоцкіх школ, рытмы шасцідзесятых і сямідзесятых гадоў у выкананні жанчын з групы «Exit» з Крынак на народныя — жніўныя, падрыхтаваныя крынкаўскай «Заранiцай», гарадоцкімі «Рассыпаным Гарадком», «Хутарам», «Асеннім лістом», і, вядома, «Калінай» і «Калінкай». Забаву ў адзін з апошніх сонечных дзён верасня закончыць позняй ноччу забава з гуртом «Зорка»...

— Трэба, каб усё адбылося як трэ! — турбуецца Янка Карповіч, трымаючы ў руках банку з-пад малака на дзесяць літраў. — Гэтыя канкурэнцыі, каб маладыя пагулялі. Выцісканне банкі з малаком, кіданне хамутом да мэты, бег з канфоркамі...

— Ой, хіба трэба было мне прывезці свой хамут, — смяецца дзядзька Генік, — бо той іхні ўсё развязваецца!

Хамут ляціць раз бліжэй, раз далей, абмінаючы цэнтральны круг. Кідаюць не толькі магутныя, румяныя прадстаўнікі Пяшчанік, Залук і Гарадка. Тут справа не толькі ў сіле, але і ў лоўкасці. Трэба добра стаяць на нагах, узяць адпаведны размах, пацэліць... Падобна і з канкай, якую трэба падымаць над галавой адной рукой! Вось Павел Пухальскі «выціснуў» яе 25 раз! Але лепшы ад усіх — Марцін Грэсь: 38 раз падняў канку, быццам грушу, але ж ён працуе ў лесе!

— Я езджу на ўсе тутэйшыя імпрэзы, — кажа беластачанін Коля Лаўнічук, родам з Лукі. — Мая мама, Гандзя Мар'янчына, была найбольшай лучанскай запявалай.

«Праўда, людзі, праўда, я — гаспадыня гарная!» — пяюць на сцэне жанчыны з «Падляшанак». Яшчэ не ведаюць, што іхні вянец будзе ўзнагароджаны (не толькі граматай!). І пасля прызнаюцца:

— Мы «збіраныя»: з Гарадзіска, з Прыбудак, з Барысаўкі...

Кіраўнічка — Анна Тэслюк. Вольга Масайла з Прыбудак, Анна Паўлючук з Барысаўкі, Люба Масайла з Прыбудак, Надзея Асіпюк з Гарадзіска.

Без перапынку падыходзяць набыўцы да раскладзістага ларка старосты Пятра Сакалоўскага, які вядзе сучасную здаровую — экалагічную гаспадарку. Пан Баляслаў з Тапалян купляе ў яго цэлыя скрынкі яек. У Пятра ёсць на гаспадарцы нават свой заапарк, якога прадстаўнікамі на фэсце тут надзіва спакойны трус і чубаты бадзёры пеўнік, якому той белы чуб трэба было падстрыгчы. Круцяцца пры гэтым стэндзе малыя і большыя — пагядзець, набыць смачны плён залучанскага гаспадара.

— Добры быў сёлетні плён, няма чаго наракаць, — усміхаецца Пятро Сакалоўскі.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Верагодны смак беластоцкага скансэна

«Каб хоць не падала», — маліліся ўдзельнікі і арганізатары вераснёвага, фальклорнага свята «Падляшскае зёлкамі пахучае». Маліліся і вымалілі. Дождж адступіў як па заказе. Нічога, што на загуменні Беластоцкага музея вёскі гразі па шчыкалатку, дзецям ад гэтага радасць. Надвор'ем задаволены былі таксама





шматлікія прадаўцы традыцыйных кулінарных вырабаў. Вільготнае, бадзёрае паветра круглы дзень трымала ласункі чыстымі і свежымі. Найбольш аматараў добрага харчавання круцілася вакол венгерскай палаткі. Маніў іх туды не толькі пах смакавітай гуляшоўкі, але таксама мадзьярскія мелодыі, іграныя ўжывую на цымбалах і скрыпцы. Разбуджаны апетыт на вугоршчыну можна было таксама заспакоіць у двары з Бобры-Вялікай. Прадстаўленыя там здымкі Марты Чонграды запрашалі зрабіць падарожжа ў яе Хортабадзь. Прыгожая вопратка пастухоў Ціса-Дунайскай нізіны, а таксама іх цікавы і багаты фальклор напэўна заахвоцілі многіх да сапраўднага падарожжа ў гэтую не так ужо далёкую частку Еўропы.

Традыцыйнае харчаванне было адной з галоўных тэм сёлетняга выпуску вераснёвага фестывалю. Тут можна было не толькі добра пад'есці, але яшчэ падгледзець працэс квашэння капусты, вэнджання мяса, выціскання алею ці (толькі для дарослых) перагонкі спірту. Дзецям арганізатары рэкамендавалі, між іншым, паглядзець экспазіцыю «Птушкі ў народным мастацтве і традыцыі» , зазірнуць на выстаўку «Дзіцячыя турботы і бестурботы!», а таксама пагуляць на прызначаным для таго пляцы. Дзеці былі таксама ўдзельнікамі якраз праходзячага там Агляду фальклорных калектываў. Упершыню на сцэне Беластоцкага музея вёскі запрэзэнтавалі свае песні і гульні дзеткі з крынскай «Заранкі». Яны з ахвотай уключыліся і ў выступленне сваіх намнога старэйшых сяброў і супрацоўнікаў з «Капэлы з-пад Крынак». Скрыпач Мікалай Байгуз і акардэаніст Анатоль Дарошка сваёй бадзёрай ігрой увялі прысутных у клімат сапраўднай, колішняй, вясковай забавы. Аўтэнтычнасці іх выступленню дадаў паказ падкрынскай версіі кракавяка, вальчыка і полькі ў выкананні дуэта «Зараніца» і дзіцячай «Заранкі».

Падкрынскі акцэнт паявіўся таксама у вопратцы тыкоцінскіх «Гетманак». Аказалася, што вышыўка родам з Гуранаў завандравала ў Тыкоцін, дзякуючы беластоцкай «Цэпэліі», у якой калектыў набыў свае кашулі і фартухі. Нягледзячы на тое, іх фестывальнае выступленне складалася выключна з тыкоцінскіх, глогераўскіх песень. Кіраўнік дваццацісямігадовага калектыву Зофія Рагавіцкая любоў да музыкі вынесла з роднай хаты. Спявала яе мама, бацька быў членам хору, іграў у аркестры і выступаў у тэатры. На жаль, ніводнае з яе васьмі дзяцей не зацікаўленае працягам сямейных традыцый. Пад пытаннем застаецца таксама будучыня ўдзельніц «Гетманак», дасягнуўшых ужо пенсіённага ўзросту.

Больш надзеі на добры ход падзей маюць жанчыны са стараверскай «Рабіны». Калектыў з пяці чалавек з Габовых Грондаў шануе памяць пра верных строгай традыцыі дзядоў і прадзедаў. Адна з яго ўдзельніц Вера Еўдакімава прызнаецца, што ейныя чатыры дачкі і іх дзеці надта любяць спяваць. Паводле стараверскіх правілаў чалавек, які займаецца малітвай на царкоўным клірасе, не павінен выступаць публічна з народным рэпертуарам. Усё такі Бог абняў надта рэлігійную сям'ю Еўдакімавых спецыяльнай апекай. Хапае галасоў і для царквы, і для забавы.

— Мая сям'я налічвае дваццаць тры асобы і ўсе стараверы, — з гонарам прызнаецца спадарыня Вера. — Кірылка, мой унучак, чытае на клірасе. Усе зяці таксама стараверы: два карэнныя, а два хрышчаныя. Пасха Хрыстова ці дні народзін з'яўляюцца нагодай да з'ездаў шматлікай радні. Заўсёды суправаджаюць іх гукі старых, рускіх, абрадавых і пазаабрадавых песень.

Напэўна няпроста было конкурснаму журы вылучыць пераможцу сёлетняга пятага выпуску фестывалю, тым больш што свой удзел заявіла больш за 360 спевакоў і музыкаў. Арганізатарка, працаўніца Беластоцкага музея вёскі Івона Пяскоўская выявіла нам, што заявак было намнога больш і трэба было абмежаваць іх колькасць па чыста практычных прычынах. Таму арганізатары разважаюць ці ў наступным годзе не задаволіцца толькі тэрыторыяй Беласточчыны.

Пра форму аўтэнтычнага фальклору ў нашым рэгіёне распавёў старшыня конкурснага журы Міраслаў Наляскоўскі.

— З фестывалем я звязаны ад самога пачатку. На працягу яго пяцігадовага існавання заўважаю рост зацікаўлення чыста этнаграфічнай формулай. Раней больш увагі адводзілася стылізаванаму фальклору. Незаўважным заставалася тое, што было верагодным для ўласнай культурнай традыцыі. Асабліва ў гэтым годзе заўважаецца тэндэнцыя развіцця артыстаў, якія ў змозе аднавіць спеў ці ігру сваіх дзядоў і прадзедаў. Сіла фестывалю заключаецца, у пэўным сэнсе, у парадкаванні і раздзяленні карэннай, верагоднай традыцыі ад яе пераўтварэння. Спадзяюся, што ў будучыні клімат і ўзровень музея больш выразна адлюструецца і ў рэпертуары, выконваным на музейнай сцэне.

Член журы Тамаш Цвірко не сумняваецца, што фестываль дапаможа працягваць яшчэ жывыя і надта багатыя традыцыі нашага рэгіёна. «Тут з'яўляюцца яны высакаякаснай атракцыяй, якой нельга саромецца, — працягвае ён. — Можа дзякуючы гэтаму мерапрыемству знойдзецца больш маладых, ахвотных пачаць уласныя пошукі свайго мінулага».

Дзень пасля завяршэння фальклорнага фестывалю журы вылучыла пераможцаў, якія ў будучым годзе возьмуць удзел у Агульнапольскім фестывалі капэл і народных спевакоў у Казімежы над Віслай.

У катэгорыі вакальных калектываў найлепшымі сталі «Вжосы» з Монек і «Малінкі» з Маліннік.

У катэгорыі капэл перамагла «Капеля Монецка» з Монек.

За рэпертуар і выканаўчую практыку вылучаны былі «Рабіна» з Габовых Грондаў і беластоцкія «Кумы і сванькі», а таксама салісты Эўлалія Сэбуня з Монек, Вера Нічыпарук з Маліннік і Юзэф Цібароўскі з Монек.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**


Тыкоцінскія «Гетманкі»


Сапраўдная «Рабіна»

## Па асфальце!

Напрыканцы лета паспяхова закончылі пабудову асфальтавай маставой на павятовай дарозе з Нараўкі ў Ахрымы. Гэты 8-кіламетровы адрэзак будавалі этапамі на працягу некалькіх гадоў. Спачатку з Нараўкі ў Мінкоўку (старэйшыя жыхары называюць гэтую вёску Беглюкамі) і гэты адрэзак закончылі ў 2011 годзе. У мінулым годзе паклалі асфальтавае палатно ў вёсцы Сушчы Барок, якая знаходзіцца на гэтым шляху.

Сёлета пабудавалі найбольшы адрэзак з Мінкоўкі ў Сушчы Барок і ад Сушчага Барка ў Падляўкова. Гэтая дарога бяжыць цераз прыгожы лес Белавежскай пушчы. Дагэтуль была тут даволі ўхабістая гравейка. Зараз, нарэшце, маем асфальт. Дарога гэтая бяжыць паралельна да ваяводскай шашы № 687 з Юшкавага Груда ў Навасады цераз Бандары, Новае Ляўкова і Нараўку ды яна на другім, левым, беразе ракі Нараўкі. Варта дадаць, што сюдою пралягаюць веласіпедныя сцежкі цераз пушчу. У цёплую пару года па гэтай роўнай ад нядаўна дарозе будзе ездзіць — так смела можна меркаваць — яшчэ больш турыстаў і аматараў катання на веласіпедзе.

Вясною і летам у гэтым годзе я сустракаў іх тут нямала. Якраз тут прыгожае наваколле: невялікія пушчанскія вёсачкі, ля самай дарогі стаяць чародкі дубоў-волатаў і гонкія елкі, ёсць тры палянкі, узлескі і там-сям можна ўбачыць прасторныя някошаныя лугі паабапал завілістай ракі з набярэжным кустоўем. Катанне на роварах стала модным. Дый не ўсюды ў пушчы можна ехаць на аўтамабілі. З-над руля ровара куды лепш відавочная прыгажосць цудоўнай Белавежскай пушчы ў кожную пару года ды і лягчэй паддыхаць свежым-свежым паветрам.

**(яц)**

## Чым заняцца?..

Наступае восень, пачынаюцца даўжэйшыя вечары і халаднейшае надвор'е. Чым заняцца ў гэты час пенсіянеру? Да суседзяў не пойдзеш, бо яны займаюцца дамашнімі праблемамі і неахвотна бачаць гасцей. Раней захапляўся я ровернымі вандроўкамі. Зараз здароўе барахліць. Не ў змозе запускацца на даўжэйшыя «эскапады». Застаецца... тэлебачанне. А чым нас корміць гэтая «дабрадзейнасць» у XXI стагоддзі? Дастаткова паглядзець тэлежурнал з праграмамі. Я, напрыклад, карыстаюся пакетам «Familijny Max HD» лічбовага «Польсата». У ім амаль сто каналаў, прытым каля дваццаці фільмавых. А калі прыйдзецца штосьці цікавага падшукаць, дык няма выбару. Напрыклад, навіны. Калі агляну інфармацыйную праграму на тэлеканале «Польсат», дык тыя ж самыя весткі перадаюцца на апошніх каналах. Наконт палітыкі адно і тое ж: спрэчкі за смаленскую авіякатастрофу. Аж моташна становіцца ад бязглуздай балбатні. Для мас-медыяў гэта бясконцая вада на іх млын. Даўней любіў я глядзець тэлеперадачу Багдана Рыманоўскага «Кава на лаву» на канале TVN-24. Зараз праграму ўспрымаю як жывы спектакль спрачаючыхся палітыкаў. Перамагае той, хто перакрычыць апанента. Праўда, можна знайсці станоўчы «адпачынак», гледзячы трансляцыю спаборніцтваў па футболе, валейболе ці лёгкай атлетыцы. Але не кожны дзень гэтае бывае. А фільмы? Лепш не гаварыць. Адны паўторы ды выцягнутыя з архіва шматгадовай даўнасці фільмы. Пры тым «акрашаны» яны шматхвілінай рэкламай. Хочаш ці не хочаш, прыходзіцца аглядаць. Паўгадзіны ідзе фільм, затым пятнаццаць мінут рэкламы. Але на гэта мы, гледачы, не маем ужо ўплыву. Усё ж такі маем рыначную эканоміку, у якой, як вядома, рэклама з'яўляецца рычагом гандлю. І з тым мусім змірыцца!..

**Уладзімір СІДАРУК**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# Спяваем і вывучаем літаркі


Фота Ганны Кандрацюк

Ці можам уявіць урок беларускай мовы без песні?

Не, такога не бывае.

Беларуская песня — аздоба беларускай культуры. Разам з песняй лягчэй вандраваць, працаваць, і... вучыцца. Вось, дзякуючы песням, можам вывучаць літаркі, знаёміцца з азбукай, пазнаваць словы. І, што самае каштоўнае — песні завучаныя ў дзіцячыя гады памятаем усё жыццё. Нават тады, калі перастанем размаўляць на сваёй мове.

Песня — дасканалы дамаможнік на ўроках. Гадамі такім музычным альбомам-узорам быў кампакт-дыск „Журавінак” з Бельска. Запісалі яго вучні бельскай „тройкі” ў сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Сёння некаторыя салісты „Журавінак” самі вядуць музычныя калектывы. Узорнымі запісамі і тым самым дапаможнікамі сталі таксама песні „Вясёлкі” з беларускага прадшколля ў Беластоку. І вось зараз у вашыя рукі трапяць новыя дыскі з дзіцячымі беларускімі песнямі. Дыскі прызначаны для выкарыстання настаўнікамі пры вывучэнні беларускай мовы ў I і II класах пачатковай школы. Выдала іх беластоцкае аб'яднанне бацькоў АБ-БА.

Прэзентацыя дыскаў адбудзецца 28 верасня г.г. на сустрэчы з настаўнікамі, для якіх аб'яднанне падрыхтавала майстар-класы. Настаўнікі пабачаць спектакль „Звярынкі з глыбінкі”, паслухаюць Анну Васькоўскую — апякунку „Баламутказ”, музычнага гурту з беластоцкай „чацвёркі” — як уводзіць літарку на ўроках беларускай мовы. Настаўнікі атрымаюць у падарку кампакт-дыскі з песнямі і новы „Лемантар” аўтарства Аліны Ваўранюк, які з верасня трапіў у нашыя школы. Сустрэча з творчымі настаўнікамі напэўна ўзбагаціць нашыя ўрокі і песенны рэпертуар.

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа

### Хваліць Янку настаўніца

Хваліць Янку настаўніца:
— Пажадаў мне
„Добрай раніцы”.
Цешыў сонечны прамень
І прывітанні „Добры дзень”.

„Добры вечар” прывітанне
Паўтараў ён па змярканні.
З прывітаннем „Добрай ночы”
Ён у ложак да сну крочыў.

### Унукі сустрэлі гадзюку

Паехаў Ясь з Ганусяй
У вёску да бабулі.
Там лепей чымсьці ў месце
Канікулы правесці.

Пайшлі ў лясок унукі,
Сустрэлі там гадзюку.
— Глянь, хвост віляе ракам,
А не відаць сабакі.


Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## Мухамор

У яркім шоламе агністым,
Як рыцар — палюбуйся. Бор! —
Стаіць на варце, ганарысты,
Граза ўсім мухам — мухамор!

*Кастусь Цвірка*

## Шарачок на шашы

*(языкаломка)*

Машына шпарка бегла па шашы. Шапацелі шыны: шы-шы-шы. Шум шушукаўся за шклом.

Штосьці шэрае — шась на шашу. Шафёр спыніў машыну. На шашы — шустры шарачок.

— Што хочаш, зай?

— Шафёр, я школу шукаю.

Шкада шафёру шарачка, запрашае:

— Марш у машыну!

Шарачок — да шафёра, шэпча:

— Школу шукаю...

— А што ў мяшку нясеш? — спытаў шафёр.

— Шышкі, шыпшыну, шчаўё, шкельцы.

— Шарачок, у школу трэба сшыткі...

— У нашым шалашы сшыткаў няма.

— У школе, зай, атрымаеш. Вывучышся і напішаш мне, з якой літары пішуцца „школа” і „шаша”.

— Напішу, шчодры шафёр, — шаптаў шчаслівы шарачок.

Машына шалёна імчала па шашы. Зай-шарачок спяшаўся ў школу.

**Паводле Уладзіміра Ліпскага**

# Эва Авярчук



З планамі на будучыню бывае па-рознаму. Найчасцей марым пра модныя і прэстыжныя прафесіі, часта не ўлічваючы сваіх здольнасцей і захаплення. Яшчэ некалькі гадоў таму амаль усе дзяўчынкі марылі аб прафесіі акцёрак, танцорак, спявачак.

Добра, калі мары суправаджаюцца нашым характарам і здольнасцямі. Нам вельмі прыемна, калі дзеці хочуць быць настаўнікамі беларускай мовы або беларускімі журналістамі.

Пра тое, што Эва Авярчук хоча стаць беларускай журналісткай, мы даведаліся яшчэ да Сустрэч „Зоркі". Ужо ў час першых заняткаў яна праявіла сябе як цікаўная асоба, якая штосьці і раз прыдумвала добрыя пытанні. У час шматлікіх сустрэч з гасцямі яна была актыўнай, а яе адвага і вынаходлівасць заахвочвалі і натхнялі іншых дзяўчат і хлапцоў. У час майстар-класаў яна стала нефармальнай лідаркай і сапраўднай зоркай журналістыкі.

Таму не дзіва, што на канец атрымала яна спецыяльную ўзнагароду — Кнігу стыляў на 2013 год.

Эва Авярчук — вучаніца II класа гімназіі ў бельскай „тройцы".

**ЗОРКА**

**Фота Г. КАНДРАЦЮК**

# ГОРКА
## ЛЯ НОВАБЕРАЗОВА

Недалёка вёскі Новае Беразова знаходзіцца невялічкая горка, на якой зараз расце малады густы лес. Навокал гэтай горкі знаходзяцца пясчаныя палі гаспадароў. Дзялянкі некаторых гаспадароў праходзяць праз гэту горку, і гаспадары нездаволены, што не могуць пасеяць там ні грэчкі, ні жыта.

Раней, як гавораць, за памяць іх дзядоў, гэтай горкі не было. На гэтым месцы стаяла вельмі прыгожая і багатая царква. Прыходзілі сюды людзі з суседніх, а нават з далёкіх вёсак. Яна не была звычайнай. У гэтай царкве часам былі цуды і дзеля таго, калі прыйдзе вялікае свята, то збярэцца столькі народу, што поўная царква, а нават вакол царквы. А святары выходзяць благаславіць народ.

Аднойчы было так. Адзін чалавек вельмі доўга хварэў і быў ужо пры смерці. Людзі яго прывезлі да царквы, дзе святары яго аздаравілі.

Так ішла слава аб цудзе-царкве. Людзі прыносілі сюды багатыя дары і складалі іх на царкву. Не падабалася гэта адным злодзеям, якія рашылі дабрацца да царквы і забраць усё багацце.

Аднойчы на вялікім свяце, калі людзі прынеслі многа дароў да царквы, злодзеі рашылі абакрасці царкву менавіта ў тую ноч. Было іх трое. Яны былі вядомымі на ўсю акаліцу. Ноччу ўзялі жалезны лом, каб аглушыць стоража, і пайшлі. Ціхенька падкраліся да царквы, аглушылі стоража, узялі ключы і ўвайшлі ў сярэдзіну. Пачалі яны браць святыя чашы з золата і другія вельмі каштоўныя рэчы. Калі пачалі выходзіць з царквы, у той момант царква праваліласся і яны разам з ёю. Потым на месцы царквы паўстала горка.

Людзі казалі, калі пойдзеш туды ноччу, то чуваць, як злодзеі енчаць. Але я таго не чуў, хоць хадзіў некалькі разоў паслухаць.

*Легенды Беларусі*

# Оля Пугацэвіч



Яшчэ ніколі, як 22 верасня г.г., не было столькі ўдзельнікаў марафона „Беласток бяжыць". У гэты раз вуліцамі сталіцы Падляшша пабегла 750 удзельнікаў, у розных катэгорыях. У спаборніцтве прынялі ўдзел бегуны з Беларусі, якія занялі самыя прэстыжныя месцы.

Нам прыемна адзначыць, што ў спаборніцтве на 800 метраў сярод дзяцей другое месца ўзяла наша чытачка — Оля Пугацэвіч з Беластока. Оля — вучаніца беластоцкай „чацвёркі". Яна выступае ў беларускім тэатры, які вядзе настаўніца Аліна Ваўранюк.

Віншуем з поспехам!

**ЗОРКА**

**Фота**

**Агнешкі Пугацэвіч**

# Загадкі з роднай хаткі № 39-13

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 10 кастрычніка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

*1. Чырвонае цельца,*
*каменнае сэрца,*
*вінная на смак,*
*а завецца як?*
(в...я)

*2. Ляжыць грушка*
*ў чырвоным кажушку,*
*хто яе ўкусіць,*
*той плакаць мусіць.*
(ц....я).

*3. Не сучок,*
*не лісток,*
*не кветка,*
*а на дрэве расце...*
(к..а)

Адказ на конкурс-загадку № 34-13: Арэх. Узнагароды — майкі з лагатыпам Радыё Рацыя — выйгралі **Наталля Паскробка** і **Мар'юш Гаўрылюк**. Віншуем!

# Польска-беларуская крыжаванка № 39

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 35:

На, фортка, бал, камінар, кот, мода, агат. Замак, лімон, гіт, нос, ар, дама, тварог, як, до, прылада.



# Завяршаючы цыкл

Адна з трох дэбат у рамках сёлетняга XIV «Трыялога» ў Крынках, які адбыўся ў гонар памерлага ў лютым Сакрата Яновіча, была прысвечана шырокай культуры. Мерапрыемствам, якое завяршыла дзень шматгадзінных абмеркаванняў (больш пісалі мы пра іх у апошніх двух нумарах «Нівы»), быў перадпрэм'ерны паказ на крынскім рынку «Антыгоны» ў выкананні Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку, паводле тэксту Сафокла і літаратурнага кіраўніка тэатра Даны Лукасінскай, якая ўпляла ў аснову старажытнай трагедыі гісторую абапертую, між іншым, на расказах жыхароў Крынак з 1947 года, калі вызначаліся новыя межы на ўсходзе Польшчы, і, такім чынам, падзелены былі сем'і, а ў некаторых у выніку пасляваенных падзей «брат павярнуўся супраць брата».

У дыскусіі пад лозунгам «Культура» ўдзел прынялі Кшыштаф Чыжэўскі, практык ідэі, шэф сейненскага Асяродка «Паграніччa», Габрыела Кардацца, італьянская гісторык мастацтва, аўтарка дакументальных фільмаў пра Сакрата Яновіча, Тамара Андрушкевіч, перакладчыца беларускай літаратуры (у тым ліку Сакрата Яновіча) і Сяргей Чыгрын са Слоніма ў Беларусі, паэт, літаратуразнаўца і культуролаг, гісторык і журналіст.

Пачаў Кшыштаф Чыжэўскі ад заявы:

— Сакрат Яновіч пытаўся, чаму гэтак важная мова, але ж гэтым самым пытаўся пра заўтрашні дзень. Не быў у ніякім майнстрыме (галоўнай плыні — М. Х.). Было б цікава напісаць яго біяграфію.

Тут, паўжартам, уключыўся сузаснавальнік і суарганізатар сёлетняга выдання «Трыялога», вядомы ў свеце мастак з Валіл Лявон Тарасэвіч:

— Біяграфія Сакрата напісана, на Сянкевіча ў Беластоку, у Паліцыі.

Кшыштаф Чыжэўскі працягваў:

— Яго вяртанне ў Крынкі не было сентыментальным. Ён быў натапыраны на такія настальгічныя, дзёрзкія кліматы — «Аркадыі дзяцінства». Як Мілаш. Забягаючы наперад, завяршаў цыкл, меў патрэбу аднавіць тое, што страчана. Вяртанне ў Крынкі гэта быў жэст штурхання свету наперад у яго аднаўленні. Гэта быў жэст вяртання да зямлі Ульра, як сказаў бы Мілаш.

Ён паставіў тэзіс:

— Для Сакрата мова была радзімай. Ён не змагаўся за нацыянальную дзяржаву, толькі якраз за мову. Мова з'яўляецца не толькі камунікатарам.

Адзначыў:

— У барацьбе за беларускась, якую вёў Сакрат, ёсць небяспека закрыцця ў гета. Тое, што важнае для маладых беларусаў, гэта здабыць свабоду для стварання новага. Стварэнне ў другой палове 1950-х гадоў «Нівы» было авангардным жэстам. Людзі сабраліся вакол яе, у тым ліку Сакрат, былі вольныя ад сканснаннага думання аб свабодзе. Сам Сакрат быў вольны ў сваім мысленні да канца.

Габрыела Кардацца таксама пачала свой выступ ад заклiку напісаць біяграфію пісьменніка з Крынак. Падкрэсліла:

— Толькі на працягу доўгага часу я пачала разумець, што гэта ўніверсальны пісьменнік, без меж суствараючы красу. Яго літаратура гэта сустрэча дзвюх душ, не ў літаральным сэнсе разумення мовы. Сакрат Яновіч быў перакананы, што тут і цяпер трэба ведаць сваё мінулае. Без гэтага няма будучыні.

Тамара Андрушкевіч падзялілася сваімі ўражаннямі:

— Словы ў творах Сакрата былі бедныя, не былі лірычныя.

Сяргей Чыгрын сказаў, што гэта было б, калі б узнікла кніга, якая складалася б са шматлікіх анекдотаў, якімі Сакрат Яновіч бруіў на кожнай сустрэчы. Дадаў, у больш шырокім кантэксце:

— Я не хачу і, здаецца, усе беларусы не хочуць, каб наша краіна асацыявалася толькі з Чарнобылем, Лукашэнкам, але з беларускай культурай: літаратурай, тэатрам, таксама з Сакратам Яновічам. Задачай Сакрата было, каб ведалі пра нас у свеце. На сённяшні дзень Беларусь пачынаецца ў Крынках.

Адам Міхнік, галоўны рэдактар штодзённікі «Gazeta Wyborcza», адзначыў:

— Трэба імкнуцца да дзяржавы не так нацыянальнай, як грамадзянскай.

Данута Завадзка з Універсітэта ў Беластоку ўпомніла аб тым як студэнты ставяцца да кніг Сакрата Яновіча, якія ўключаны ў абавязковыя чытанні на паланістыцы гэтай вучэльні:

— Яны ўспрымаюцца імі як польская літаратура дзевятнаццатага стагоддзя. З іншага боку Сакрат Яновіч разглядаецца як пісьменнік пругкай ідэнтычнасці, дзе ёсць места на мясцовае і еўрапейскае адчуванне.

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП:

— Творчасць Сакрата прывабная з-за мовы, выпешчанай, канкрэтнай, поўнай эстэтычнай думкі. Толькі тыя, што пішуць на беларускай мове, з'яўляюцца індыкатарамі беларускасці.

Кшыштаф Чыжэўскі ў дыскусіі спаслаўся на сваю ранейшую заяву:

— «Беларусь, Беларусь» у 1987 годзе была ў галоўным рэчышчы літаратуры ў Польшчы. Адкрывалі тады дзякуючы ёй іншую краіну. Вы патрэбныя нам, беларусы, таксама для нечага іншага, чым дамаганне беларушчыны. Вы патрэбны нам у цэлым, а не толькі да партыкулярных інтарэсаў. Сакрат быў бунтаром у сваім беларускім асяроддзі, таму што ён хацеў новага, бо яму мяшала вузкае месніцтва.

Мікалай Ваўранюк, беларускі журналіст публічнага тэлебачання і Радыё Рацыя:

— Дамаганне свайго гэта таксама здзяйснянне цэласці.

Данута Завадзка:

— Сакрат Яновіч з'яўляецца выклікам для беларускасці, але і польскасці, таму што ён — сімвал свабоды і незалежнасці.

Лявон Тарасэвіч :

— Тут, на месцы, Сакрат быў дзяжурным беларусам. Менавіта гэта быў тут адзіны чалавек, які перадаў ідэю беларускасці маладому пакаленню.

Увечары, пасля некалькіх гадзін дэбатаў, удзельнікі «Трыялога», спецыяльна прыбыўшая аўдыторыя, у тым ліку з Беластока, і, перш за ўсё жыхары Крынак паглядзелі паўтарагадзіннае прадстаўленне «Антыгоны» ў пастаноўцы Агнешкі Карыткоўскай-Мазур ды ў сцэнаграфічным афармленні і рэжысуры асвятлення Лявона Тарасэвіча; гэта ён быў задумшчыкам паказання гэтай драмы ў Крынках. Яшчэ шмат дзён пасля прадстаўлення мясцовыя жыхары былі крануты спектаклем. Юрка Асеннік з Фонду «Віла Сакрата» (Фонд арганізаваў «Трыялог») успамінаў:

— На наступны дзень пасля прэзентацыі я адправіўся ў краму ў Крынках. Прадаўшчыца спыталася, ці я з «Вілы» і стала дзякаваць за прадстаўленне. Раптам яна заплакала ад хвалявання.

Яшчэ да пачатку «Антыгоны» адзін з яе акцёраў, член аднаго з хароў (па сэнсе грэцкай трагедыі, яны каментавалі падзеі на сцэне) Пятро Крук сказаў „Ніве":

— Тут расказана гісторыя з 1943-1947 гадоў. І мае ўспаміны ажылі. Калі я быў дзіцём, і маю сям'ю з Навасад, адкуль я родам, таксама кранулі гэтыя падзеі. Там таксама ваяваў адзін блізкі супраць другога. Калі ў 1945 годзе «свае» расстрэльвалі людзей у Нараўцы і затым ноччу яны прыйшлі ў Навасады, мы таксама быццам бы вялі швагра ў схоў з рукамі закладзенымі за галаву, каб і яго не забілі.

Пасля спектакля жонка аўтара дакументальных фільмаў, узнагароджанага шматлікімі прэміямі Юрыя Каліны — Міраслава адзначыла:

— Я ўспрыняла гэтую гісторыю, якая дзеялася пасля Другой сусветнай вайны, дапасаваную да антычнай трагедыі, асабіста. Я сядзела ў архіве ў Беластоку і чытала нататкі спецслужбаў таго перыяду з рознымі забойствамі, катаваннямі, расплатамі, якія адбываліся тут у 1945-1950-х гадах. У 1945 годзе таксама дайшло да закатавання членаў маёй сям'і. Мой сваяк быў дастаўлены ў лес і там забіты, а яго жонка пайшла разам з ім. Іх знявечаныя трупы былі знойдзены праз тыдзень. Зрабілі гэта суседзі з суседняй вёскі, і той жа рэлігіі; старшынёй партыі быў праваслаўны. Сёння, падчас выступу гэта ўва мне ажыло — гэтыя нататкі з архіва, гэтыя сямейныя расказы. Яшчэ раз я ўсвядоміла сабе: я рада, што жыву ў зусім іншым часе.

У час сустрэчы пасля спектакля ў сінагозе, дзе адбыліся дыскусіі, Адам Міхнік нечакана для гасцей упаў на калені перад Агнешкай Карыткоўскай-Мазур і сказаў:

— Гэта ў польскім тэатры самая важная падзея пасля "Дзядоў" Дэймэка з 1968 года (забарона паказу гэтай драмы Міцкевіча прывяла да студэнцкіх хваляванняў — М. Х.). А «Ніве» ён сказаў:

— Гэта вялікая падзея. Гэта адзін з найвялікшых спектакляў, якія я калінебудзь бачыў у сваім жыцці. Гэта спектакль, які прымушае кожнага гледача зусім па-новаму глянуць на апошнія сто гадоў польскай гісторыі.

Лешак Мачульскі, адзін з гасцей «Трыялога", былы лідар апазіцыі, заснавальнік Канфедэрацыі непадлеглай Польшчы:

— Я якраз сядзеў у час пастаноўкі побач з тутэйшымі людзьмі. Паўтаралі ў яе ходзе: «так, гэта было, гэта так было», «высялялі». Гэтая праблематыка, узнятая ў прадстаўленні, балючая тут да сёння.

Хвалюючае, глыбокае маўчанне запанавала падчас пастаноўкі пару разоў. Але асабліва ў заключнай частцы, калі гучаў маналог аднаго з «сучасных» персанажаў — Шымона, аўтарства Даны Лукасінскай:

— Не жывуць усе. Пазабіваныя адны аднымі. За іншую веру, за крывы нос, за рускі акцэнт, за гектары зямлі. Ніхто, хто нарадзіўся тут, тут жыць не будзе. Праклінаю вас, тутэйшыя людзі, што так лёгка прыходзіцца вам жыць на месцы памерлых! Калісьці гэты горад гудзеў. Цяпер гэта могільнік. Закатаваных. Праклінаю вас, людзі без сэрца! Каб вы ніколі не пусцілі каранёў. Бяздомныя ішлі па жыцці, заўсёды на чужым. Сцэны ацалелых дамоў як надмагільныя мацэвы, але над парогам ужо вісіць крыж Яўрэя, які за вас аддаў сваё жыццё. Ён даў вам неба, яны — свае дамы. Я праклінаю вас! Няхай прападзе горад, якому вялікасць далі мёртвыя, нежаданыя жывыя.

Прэм'ера «Антыгоны» адбудзецца на плошчы імя папы Яна Паўла II у Беластоку 29 верасня ў 20:30. Уваход бясплатны.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА


Злева: Сяргей Чыгрын, Тамара Андрушкевіч, Лідыя Стэфаноўская, Габрыела Кардацца, Кшыштаф Чыжэўскі


Акцёры „Антыгоны": (злева) Алесь Малчанаў і Пятро Крук

# Цэнтр Еўропы

**Прынялося ў нас, на Беласточчыне, лічыць з абсалютнай упэўненасцю, што цэнтр нашага кантынента знаходзіцца ў Сухаволі. Гэтае сцвяраджэнне было аб'яўлена свету ў 1775 годзе Шыманам Саберайскім, картографам польскага караля Станіслава Панятоўскага.**



Цэнтр Еўропы; від Ляўкова з Падляўкоўя

Гэтую інфармацыю падаюць усе даведнікі, але не ўсе з ёю пагаджаюцца. Нам вядома, што ў Беларусі не прызнаюць „польскага" цэнтра, што вызначаны ў Сухаволі — там мяркуецца, прымаючы іншыя чым Саберайскі крытэрыі, што цэнтр Еўропы ў іх, каля пяцідзесяці кіламетраў на поўдзень ад Полацка, у наваколлі возера Шо. Ды і ў наваколькых суседзяў таксама маюцца іхнія ўласныя цэнтры Еўропы, вызначаныя паводле яшчэ іншых крытэрыяў. Такім вось чынам маюцца цэнтры Еўропы ў Славакіі, Украіне, Літве, Эстоніі, Чэхіі, Венгрыі, Германіі і нават у Нарвегіі. Такім чынам маем па меншай меры дзесяць розных, не супадаючых з сабою, цэнтраў нашага кантынента.

Усе гэтыя цэнтры вызначаны згодна прынятым крытэрыям, паводле строгіх геаметрычных разлікаў. І ўсе яны, дакладна кажучы, нягледзячы на тую строгасць — недакладныя. Бо ж не толькі Космас у пастаянным руху; таксама зямная паверхня, нягледзячы на яе бачную статычнасць, нябачна варушыцца. І зараз пасля вымярэння прынятых каардынат, тыя каардынаты крышку зменяцца і атрыманы вынік будзе ўжо ўстарэлы. Гэта, вядома, практычнага значэння не мае, так як не мае сутнаснага значэння і месцазнаходжанне таго цэнтра; такая цікавінка патрэбная, па сутнасці, толькі для прыцягнення цікавых усяго турыстаў дзеля выканання імі памятных здымкаў і кампанейскіх успамінаў. А чэшскі журналіст Душан Врбіцкі лічыць, што кожны чалавек можа вызначыць свой цэнтр Еўропы там, дзе яму захочацца, паводле ўласных крытэрыяў.

Задумаў і я вызначыць свой цэнтр Еўропы, але не паводле дакладных геаметрычных прынцыпаў, але паводле зусім недакладных грамадскіх меркаванняў. Вядома ж, што Еўропа ў грамадскім, а больш шырока кажучы, у цывілізацыйным плане падзелена галоўным чынам у адным сячэнні на Усход і Захад, а ў другім — па Поўдзень і Поўнач. І гэтыя падзелы, як добра вядома, ніколі не былі дакладна вызначаны і такім чынам яны вельмі прыгодныя для недакладных маіх меркаванняў.

Агульна вядома, што мяжа паміж Усходам і Захадам пралягае дзесьці ў нас і гэта мяжа паміж светам культурнай спадчыны Рыма і светам культурнай спадчыны Візантыі. Некаторыя мясцовыя аўтарытэты лічаць, што праходзіць яна па шашы з Бельска-Падляшскага ў Сямятычы. Але фармальна такой мяжы ніхто не вызначаў, а паколькі станавілася яна ў ходзе гістарычных працэсаў, тады варта дзеля гэтага падмацавацца нейкай канкрэтнай граніцай з нашага мінулага. І, так мне здаецца, вельмі падыходзіць для гэтага колішняя граніца паміж Каронай і Вялікім Княствам Літоўскім, а дакладней — паміж Падляшшам і Літвой.

Граніцу ж паміж Поўднем і Поўначчу вызначалі калісь межы ўплываў гаспадарчых цэнтраў: Міжземнага і Чорнага мораў з аднаго боку ды ганзейскіх цэнтраў Балтыкі і Паўночнага мора з другога. І тут мая на ўвазе не сама тапаграфічны водараздзел паміж гэтымі магутнымі адгалінаваннямі Атлантыкі, і не сімвалічную мяжу між светам віна і светам гарэлкі, але грамадскую мяжу, якая на тым водараздзеле фармавалася. І тут таксама дэтэрмінантам можна прыняць гістарычнае адміністрацыйнае дзяленне па гэтай грамадскай мяжы, колішняе размежаванне паміж Наваградскім і Берасцейскім ваяводствамі, паміж уласна Літвой і Палессем.

Такім вось чынам задуманы мною цэнтр Еўропы апынуўся б на сутыкненні межаў колішніх Падляшскага, Наваградскага і Берасцейскага ваяводстваў. А дзе ж тое месца знаходзілася? Знаходзілася яно на сутыкненні колішніх Бельскага, Ваўкавыскага і Пружанскага паветаў. *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* дазваляе даволі дакладна вызначыць гэтае месца.

У былым Бельскім павеце вуглавой вёскай былі Ахрымы, што ў сённяшняй Нараўчанскай гміне, пра якія *Слоўнік* згадваў: **Ochrymy, wieś i uroczysko, pow. bielski, gub. grodz., gm. Łosinka, 134 dziesięciny.**

У былым Пружанскім павеце такой вёскай было Падляўкоўе, якое зараз таксама ў Нараўчанскай гміне: **Podlewkowie, uroczysko, pow. prużański, gm. Masiewo, o 70 wiorst od Prużany.** А ў Ваўкавыскім павеце Ляўкова, цяпер у той жа, што і раней названыя вёскі, гміне: **Lewkowo, wieś, pow. wołkowyski, okręg policyjny świsłocki, o 32 wiorsty od Świsłoczy, o 60 od Wołkowyska, o 92 od Grodna. Jest tu zarząd gminy tarnopolskiej.**

Ляўкова ад Падляўкоўя і Ахрымоў аддзяляе рэчка Нараўка, а Падляўкоўе ад Ахрымоў рэчка Яблынёўка. Пры ўліцці апошняй у Нараўку і сходзіліся межы названых раней ваяводстваў, сходзіліся межы геаграфічна-грамадскіх тэрытарыяльных адзінак: Падляшша, Літвы і Палесся. Такім чынам цяперашняе Падляшскае ваяводства ўключае ў сябе землі іншых раней тэрытарыяльных суб'ектаў.

Не ведаю, чым цікавыя названыя на пачатку мясцовасці, якія нехта лічыць цэнтрамі нашага мацерыка. Але з прапанаванага мною цэнтра найбліжэйшае наваколле выглядае даволі прывабна. Пра Падляшша я тут занадта не хачу згадваць, бо яно ўжо стала часткай нашай свядомасці, нашага самавызначэння. Можа толькі падкіну вытрымку з кніжкі Канстанта Крыніцкага ***Rys geografii Królestwa Polskiego***, з 1887 года, вытрымку пра Падляшша: **„Ludność wyznania prawosławnego przedstawia wojsko i osoby zajmujące pewne urzędy. Ztąd też ludność tego wyznania znajduje się we wszystkich miastach, osadach, a niekiedy i po wsiach".** Ці ж не выказвала яна пагляд стогадовай будучнасці? Ці ж не фармавала яна тутэйшага стэрэатыпу Падляшша? Яна таксама даволі метка цэліць і ў Западляшша, значыць у суседнія Літву і Палессе, дзе згаданы разрад насельніцтва акурат перабраўся з вёсак у гарады. Ці гэта не эпіцэнтр дэмаграфічнай дынамікі Еўропы?..

І Літва здаецца быць крыху знаёмай, не толькі славутай настальгічнай фразай Адама Міцкевіча ***Litwo, ojczyzno moja, ty jesteś jak zdrowie.*** А яшчэ раней, у XII стагоддзі, кіеўскі летапісец Нестар у *Аповесці мінулых гадоў* разглядаў Літву не адно ў еўрапейскім, але і ў сусветным кантэксце: сюды сяліліся патомкі Ноевага сына Яфета: „Въ Афетови же части седить русь, чюдь и вси языце: меря, мурома, весь, мордва, заволочьская чюдь, пермь, печера, ямь, югра, **литва**, зимигола, корсь, летьгола, либь. Ляхове же, и пруси и чюдь приседять к морю Вяряскому (Балтыйскаму). По сему же морю седять варязи семо къ вьстоку до предела Симова, по тому же морю седять къ западу до земли Агаряньски (Англіі) и до Волошьскые". А крыху пазней Літва стала месцам беларускамоўнай успышкі, кульмінацыі: тут я зноў пакарыстаюся *Слоўнікам*, якога аўтар так пісаў пра Літву: **„Już w XIII i XIV w. język białoruski, wielką falą otaczając mowę litewską, podmywał jej brzegi, uszczuplał jej siedziby. Podboje czynione na Rusi przez w. ks. lit. stanowczo szalę przewagi na stronę białorusińskiej mowy przeważyły. Niemczyzna i polska mowa przedzierały się na dwory książąt, ale nie tępiły mowy litewskiej; germanizm czekał aż Litwę pokona, a wtedy czyniłby z nią co z mową pokrewnych jej Prusów, których języka zabronił używać Prusom ich władca, mistrz krzyżacki, Siegfried von Feuchtwangen, rozkazem piśmiennym w r. 1309. Na mocy tego wzbronienia nikt z Prusów nie mógł wstąpić w związki małżeńskie, gdyby nie umiał mówić po niemiecku".** Актуальны магістр падобнага на крыжацкі місіянерскага савецкага ордэна мае, здаецца, вельмі падобныя схільнасці да ўстанаўлення моўнага адзінства. Ці ж тут не эпіцэнтр моўна-ўніфікацыйнай дынамікі Еўропы?..



Рэчка Яблынёўка каля Ахрымоў — колішняя граніца між Каронай і Княствам

Палессе здаецца быць менш вядомым; магчыма, што гэтая невядомасць і з'яўляецца своеасаблівай яго прыметай. Расійскі аўтар з паловы XIX стагоддзя так яго характарызаваў:

„Народъ, населяющій белорусское Полесье, представляетъ богатую тему для этнографа; между темъ эта тема почти не тронута. Потому ли, что Полесье почти безмолвно, безъ резкой, по крайней мере, реакціи, переходило, какъ часть какого-либо целаго, въ руки соседей, желавшихъ на счетъ ея удлинить или расширить свою территорію, потому ли, что оно немного представляетъ интереса для поверхностнаго взгляда туриста и много препятствій для комфортабельнаго вояжа, потому ли что разные историки и летописцы считали его въ данный моментъ какъ-бы получужимъ, — только его, словно умышленно, обходятъ этнографы и туристы. Для многихъ изъ насъ знакомее страна африканскихъ дикарей, посещенныхъ миссіонеромъ Ливингстономъ, нежели белорусское Полесье. Это почти Америка въ Европе, ожидающая своего Колумба". Магчыма, што Белавежская пушча ў межах гістарычнай Берасцейшчыны захавалася да нашага часу таму, што не трапіў туды ніякі яе адкрывальнік з вонкавага свету, нейкі іншы Лівінгстан ці Калумб, а мясцовы народ не надта рваўся да навінак: „Прежде всего вниманіе наблюдателя поражаетъ та плесень древности, которою окаймленъ весь бытовой складъ полешуковъ-белоруссцевъ. Века пролетели надъ ними, почти не задевъ ихъ своимъ разрушительнымъ крыломъ. Большинство техъ обитателей Белоруси, о которыхъ говорю я, живетъ вне всякаго почти общенія съ соседями. Селитьбы полешуковъ заброшены въ безконечные леса, затеряны между непроходимыми болотами". А пра паляшуцкую вопратку: „Впрочемъ, свиты попадаются и серыя, черно-бурыя и даже пестрыя, — и полещукъ расхаживаетъ себе въ этомъ наряде, нисколько не подозревая, что онъ похожъ издали на аиста, или по крайней мере на белаго, съ руками взятыми на прокатъ у негра. Но лапти (полешукъ ихъ — не знаю почему — называетъ постолами) едва ли не лучшая выдумка его безъискуственнаго ума. Никакой бархатъ и атласъ не доставятъ ноге того ощущенія мягкости, теплоты, простора, неги, какое чувствуетъ она въ лаптяхъ, особенно, если будетъ укутана въ несколько рядовъ мягкою, полотняною ветошью. Не будь на земле воды, лапти съ честію выдержали бы соперничество со всякою обувью, выдуманною человекомъ".

Ад гістарычнай Берасцейшчыны асталося ў нас не адно Масева: тут і Нараўка, і Дубіны, і Арэшкава, і Вэрсток з Курашавам, і Рагачы, і Мілейчычы, і Сасіны, і Тэлятычы з Вілінавам. Гэтыя тапонімы, верагодна, шырокаму колу еўрапейцаў невядомыя. Але нягледзячы на гэта, менавіта тут, на сутыкненні Падляшша, Літвы і Палесся, пры ўпадзенні Яблынёўкі ў Нараўку, цэнтр Еўропы. З якога ж іншага месца відаць лепш ейную глыбінку?

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞праця

# Партнёрства самакіравання

Амбасадар Швецыі ў Польшчы Стафан Герстром (Швецыя была з Польшчай адным з заснавальнікаў праекта УП, інаўгураванага ў 2009 годзе):

— УП абапіраецца таксама і на каштоўнасці, не толькі на камерцыйныя мэты. Дзверы для краін Усходняга партнёрства ў ЕС павінны быць адкрыты пры будаўніцтве дэмакратыі ў гэтых краінах ад нізу.

Анджэй Арандарскі, старшыня Краёвай гандлёвай палаты:

— Супрацоўнічаючы з краінамі УП, мы прымаем пад увагу абмежаванні з боку Расіі і ўжо можам пачуць тое вурчанне. Аднак, яны кароткатэрміновыя. Прымяняючы іх доўгатэрмінова, Расія не магла б пабудаваць свой імідж на міжнароднай арэне, а ў энергетычнай палітыцы не мела б козыра ў кішэні.

З вельмі выразным сігналам выступіў пасол Малдовы ў Польшчы Юрые Бодруг:

— Прыярытэт нашай краіны — удзел у ЕС. На саміце ў Вільні прыярытэтамі будуць: падпісанне кантракта аб асацыяцыі з ЕС і пагаднення аб свабодным гандлі і адмене візавага рэжыму. Мы хочам у Вільні адзначыць, што ў Малдовы ёсць еўрапейскія перспектывы, а не УП. Пры расійскіх абмежаваннях (нядаўна Расія ўвяла эмбарга на малдаўскае віно — М. Х.), мы павінны захаваць спакой.

## Меншасці — нацыянальны абавязак

У перамовах за кулісамі папрасілі мы ў Яцка Міхалоўскага пракаментаваць нехахвотнае супрацоўніцтва Беларусі з УП, якая байкатавала апошні саміт Усходняга партнёрства ў Варшаве два гады таму:

Партнёрства ці лакейства? - вось у чым пытанне.

— Я перакананы, што супрацоўніцтва на мясцовым узроўні працягваецца. Гэта ў першую чаргу трэба ўзгадоўваць. Гэтаму служыць УП, каб будаваць адносіны паміж людзьмі. Мы марым, што, нарэшце, будзе ўведзены малы памежны рух з Беларуссю, таму што ён сапраўды дапамог бы ў адносінах. Я неўзабаве буду ў Мінску, з нагоды святкаванняў 150-годдзя студзеньскага паўстання, і таксама буду заахвочваць да большага абуджэння цікавасці да УП.

Ацэньваючы адсутнасць самаўрадаў з Арменіі, Азербайджана і Беларусі на Форуме, сказаў:

— У некаторых нашых партнёраў часам не існуе мясцовае самакіраванне, ёсць у іх штосьці такое ў мясцовых уладах у постсавецкім стылі. Мабыць, яны не зацікаўлены, ці мабыць, яны ёсць, але мы не ўмеем добра размаўляць. Яшчэ не прысутнічаюць, але будуць. Але гэта доўгі працэс.

Гжэгаж Схетына сказаў нам, спасылаючыся на адсутнасць, у прыватнасці суседняй з Падляшшам Беларусі:

— Я прымаю гэта са шкадаваннем. Гэты Форум якраз тут, у Беластоку, з'яўляецца добрым шляхам для мясцовых супольнасцей, асабліва для беларускай, якой дэмакратыя пад найбольшай пагрозай. Трэба ў беларускім выпадку супрацоўнічаць разам з грамадзянамі, з адкрытым грамадствам. Гэта будзе працягвацца, але бачанне супрацоўніцтва і адкрытасці, дарога — павінны быць указаны. Трэба адкрываць мяжу, каб людзі маглі мець зносіны адзін з адным, каб Беларусь магла змяняцца.

Мы таксама спыталіся ў кіраўніка Камісіі па замежных справах, як у кантэксце супрацоўніцтва з Беларуссю ў рамках Усходняга партнёрства ацэньвае факт скарачэння грошай ЕС для незалежных няўрадавых арганізацый у Беларусі на рэалізацыю сумесных праектаў паміж ЕС і Беларуссю, і прызначэнне іх у першую чаргу на сумесныя праекты з праўрадавымі арганізацыямі:

— Гэта вельмі сумнае. На гэта няма згоды. Я спадзяюся, што гэта не пастаянная тэндэнцыя. Тут мусіць прагучаць і наш голас. Польшча ў гэтым выпадку павінна паўплываць на ЕС. Гаворка таксама аб функцыянаванні візавага рэжыму. Трэба таксама прыгадваць, што ў Беларусі нічога не стабілізуецца, не мяняецца. Прытым, добрае супрацоўніцтва паміж апазіцыйнымі арганізацыямі ў Беларусі спрыяла б нам несці дапамогу.

Пры нагодзе Форуму папрасілі мы, каб некаторыя госці пракаментавалі ідэю міністра фінансаў скараціць амаль на 18 адсоткаў у бюджэце датацыі для нацыянальных меншасцей на наступны год. Яцэк Міхалоўскі:

— У мяне няма дэталяў гэтага праекта. Калі гэтая тэндэнцыя будзе, трэба ёй процідзейнічаць. Нашым нацыянальным абавязкам з'яўляецца клопат аб меншасцях .

Гжэгаж Схетына:

— Пакуль што гэта ўступнае абмеркаванне бюджэту на наступны год. Наша камісія выкажацца ў гэтым пытанні, і будзем пільнаваць, каб не было абмежаванняў на гэтыя выдаткі. Мы зробім усё, каб абараніць гэтыя выдаткі.

Форум не прыцягнуў цікавасці беластоцкіх радных (за выключэннем старшыні Гарадской рады Уладзіміра Кусака) і пераважнай большасці прадстаўнікоў органаў мясцовага самакіравання ў рэгіёне. У ходзе сустрэчы адбылася таксама прэзентацыя магчымасцей для супрацоўніцтва і інвестыцый у краінах Усходняга партнёрства. На другі дзень запрошаныя самаўрадаўцы наведалі дэпартамент абслугоўвання насельніцтва беластоцкай гарадской управы. Яны маглі пабачыць, між іншым, аўтаматычна высоўваныя сценкі і ліфт для перавозу дакументаў, а таксама пазнаёміцца з магчымасцямі сістэмы электроннага абслугоўвання кліентаў. Адзін з прадстаўнікоў малдаўскіх мясцовых органаў улады падчас экскурсіі сказаў:

— Гэтыя арганізацыйныя рашэнні. Нам патрэбныя рашэнні сістэмныя.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

---

## БЕЛАРУСКІ МУЗЫЧНЫ КАЛЯНДАР

## http://calendar.secondbelarus.com

Ці можна сказаць, што кожны чалавек штодня адмыслова слухае нейкія песні? Пэўна, не. Калі і слухае, то выключна выпадкова — едзе ў аўтамабілі, уключыўшы радыё, ці глядзе па тэлевізары нейкі канцэрт альбо музычны кліп. Канешне, такая сітуацыя не зусім уласцівая моладзі — тыя могуць з навушнікамі ў вушах хадзіць цэлы дзень, слухаючы ўлюбёных выканаўцаў альбо папулярныя гурты. А што б было, калі б людзі слухалі нейкія песні штодня па загадзя распрацаваным раскладзе? Відаць, на такую прапанову адказам было б пытанне: „А навошта?".

Уладзімір Слабін, аўтар і ўладальнік сайта „Беларускі музычны каляндар", які месціцца па адрасе **http://calendar.secondbelarus.com**, лічыць, што слуханне песень па календары дазваляе больш поўна пазнаёміцца з беларускім песенным скарбам. „Багатая беларуская музычна-песенная культура вартая таго, каб цешыліся яе разнастайнымі пластамі, а не толькі тымі, што папулярныя сёння і зараз, дзякуючы выпадковаму збегу акалічнасцей", — піша ён у рубрыцы „Аб праекце" свайго каляндарна-песеннага сайта. Дарэчы, там жа месціцца фотаздымак аўтара.

Слабін слушна заўважае, што кожны дзень года звязаны з нечым асаблівым. „Нарадзіўся хтосьці знакаміты, адбылася грандыёзная сеча, урад пэўнай краіны прыняў (не)папулярнае рашэнне, надышоў дзень усеагульнага замілавання ці проста раптам настала вясна — аб усім гэтым можа (і павінна) быць праспяваная песня", — адзначае аўтар сайта.

Ён прапануе нам паставіць у камп'ютары закладку на „Беларускі музычны каляндар" і штодня, пажадана раніцай, заходзіць туды слухаць „календарна слушныя" песні. „Кожны дзень характарызуе безліч падзей, таму на кожны дзень прыпадае некалькі песень. Незалежна ад даты, пад настрой і/або ў адпаведнасці з параўнай года і/або часам дня і/або надвор'ем, слухайма адмыслова падабраныя песні — пра вясну ці восень, раніцу або вечар, сонца альбо снег. Можаце таксама ўявіць сябе ў пэўным горадзе або краіне", — прапануе Слабін.

Яго сайт мае даволі простую і зразумелую навігацыю. З правага боку месяцца даты-спасылкі, клікнуўшы на якія мы адкрываем старонку з песнямі. Яны падабраны такім чынам, каб так ці інакш тычыліся падзей, што адбываліся ў той дзень. Кожная песня змяшчаецца на так званых мроіва-роліках, дзе падчас гучання мы можам бачыць разнастайныя абстрактныя лініі і вобразы, што рухаюцца і змяняюцца.

„Мроіва-ролікі маюць перад кліпамі тую перавагу, што не ачмураюць слухача-гледача відэашэрагам, не маючым адносін да песні. Дробныя планы кліпаў грузяць нас інтэр'ерам, у якім адбываецца канцэрт, паказваюць „масавасць" аўдыторыі і яе экзальтацыю. Буйныя планы падкрэсліваюць мужчынскія і жаночыя вартасці выканаўцаў. І тое, і другое мае на мэце псіхічнае заражэнне, эмацыйны саўдзел гледача праз вобразы іншых асоб — але не праз песні як такія. У адрозненне ад кліпаў, мроіва-ролікі даюць магчымасць удумліва слухаць і развіваюць нашу фантазію. Пры гэтым яны не такія безаблічныя, як аўдыёзапісы", — тлумачыць вартасць сваіх мроіва-ролікаў аўтар сайта.

Спасылкі на песні размяшчаюцца таксама ўверсе і ўнізе. Уверсе ідзе дзяленне песень па порах года і асаблівасцях надвор'я, а ўнізе — па згаданых у кампазіцыях гарадах.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Беларускі Салжаніцын

# 100 гадоў з дня нараджэння Сяргея Грахоўскага

Не ведаю, як у цяперашняй школьнай праграме, але маё пакаленне з творчасцю Сяргея Грахоўскага знаёмілася менавіта на ўроках беларускага чытання і літаратуры. Яго вершы неяк адразу арганічна закладваліся ў памяць, вылучаліся звонкасцю і аптымізмам. Насамрэч жа жыццё гэтага літаратара было вельмі няпростым.

Нарадзіўся Сяргей Грахоўскі 25 верасня 1913 г. у сялянскай сям'і ў мясціне з красамоўнай назвай Нобель (цяпер Зарэчненскі раён Ровенскай вобласці, Украіна). У 1914 г. разам з бацькамі пераехаў у мястэчка Глуск на Магілёўшчыне. Як творца дэбютаваў вершам у 1926 г. У 1930 г. пачаў працаваць рабочым на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. У 1931-1932 гг. працаваў карэктарам у Дзяржвыдавецтве БССР, у газеце „Чырвоная змена". Скончыў газетна-выдавецкае аддзяленне літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута (1935), працаваў рэдактарам на Беларускім радыё, выкладчыкам літаратуры на рабфаку пры БДУ.

Двойчы беспадстаўна арыштоўваўся органамі НКВД. Першы раз у 1936 г. у Мінску як „член контррэвалюцыйнай арганізацыі" і за „антысавецкую дзейнасць" засуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Быў на Унжэнскім канцлагеры Горкаўскай вобласці. Вызвалены ў 1946 г. Выкладаў рускую мову і літаратуру ва Урэцкай сярэдняй школе Слуцкага раёна. Зноў арыштаваны ў 1949 г., высланы на пасяленне ў Новасібірскую вобласць Расіі, дзе працаваў настаўнікам. У 1955 г. быў рэабілітаваны. У 1956-1973 гг. працаваў на радыё, у часопісах „Бярозка" (загадчыкам аддзела рэдакцыі) і „Вясёлка", літкансультантам СП БССР (1959-1960). У 1973-1974 гг. адказны сакратар Камітэта па дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. З 1974 г. на пенсіі. Актыўна займаўся літаратурнай і грамадскай працай літаральна да апошніх дзён жыцця.

Асноўны перыяд творчасці прыпаў на гады жыцця ўжо пасля абедзвюх ссылак. Дакументальныя аповесці Грахоўскага „Зона маўчання", „З воўчым білетам", „Такія сінія снягі" — беларускія аналагі „Архіпелагу ГУЛАГ" Аляксандра Салжаніцына. Грахоўскі выдаў больш за 20 зборнікаў сваіх вершаў, сярод іх ажно 5 выключна для дзяцей. Усяго ж выйшла больш за 60 розных кніг яго аўтарства.

Паэт з'яўляецца аўтарам верша „Ветразь", дзе наўмысна не ўжытае ніводнае слова, якое было б сугучнае са словам у расейскай мове. Акрамя гэтага Грахоўскі вядомы і як таленавіты перакладнік — ён перакладаў Жуля Верна, Аляксандра Блока, Аркадзя Гайдара, Рабіндраната Тагора, Яніса Райніса, дзесяткі іншых літаратараў, пераважна паэтаў.

Пражыў Сяргей Грахоўскі досыць доўгае жыццё. Калі прыйшоў час суверэнітэту, быў заслужана ўганараваны незалежнай Беларуссю. У 1992 г. ён атрымаў прэмію імя Якуба Коласа за зборнік „Сповeдзь", а ў 1994 г. атрымаў медаль Францішка Скарыны — тады такія ўзнагароды давалі сапраўды выдатным асобам нашай культуры. Памёр Сяргей Грахоўскі 11 снежня 2002 г. У горадзе Глуску на Магілёўшчыне, адкуль род пісьменніка, яму пастаўлены помнік, у цэнтры горада бульвар і школа № 1 носяць яго імя.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

